# Шляхі №3

# калектывізацыі



**Ударнікі брыгады калгасу імя ЦВК (Топінскі раён) выяжджаюць на арганізацыю калгаснага прыліву ў акаляючыя вёскі.**

ЗЬМЕСТ

Стар.

## Да другой бальшавіцкай вясны



## Шырэй фронт калектывізацыі



## За высокі ўраджай



## Больш корму прадукцыйнай жывёле



## Афіцыйны аддзел

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68, 2 паверх, тэл. 14—60

№ 3—люты—1931

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ




# Узяць баявыя тэмпы!

**„Падрыхтоўка і правядзеньне надыходзячай веснавой пасеўнай кампаніі павінна адбыцца пад знакам баявой мабілізацыі ўсёй КП(б)Б на яе правядзеньне і арганізацыі новага, больш магутнага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы пад знакам рашучай барацьбы з кулаком, які зьяўляецца галоўным ворагам калектывізацыі".**

**(З пастановы пленуму ЦК КП(б)Б)**

## М. Т. С.—арганізатары калгаснага прыліву

„За год сваёй работы поўнасьцю вызначылася выключнае важнае значэньне машынна-трактарных станцый і Трактарацэнтра ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Узброенае перадавой тэхнікай МТС на аснове правядзеньня чоткай клясавай лініі і бальшавіцкіх тэмпаў работы, сапраўды сталі важнейшымі апорнымі пунктамі суцэльнай калектывызацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы" (з пастаноў ЦК УсеКП(б) ад 16 кастрычніка).

У другую бальшавіцкую веснавую сяўбу ў бойку за сацыялістычную рэканструкцыю сельскае гаспадаркі БССР уключацца 23 МТС з 1135 трактарамі.

Машынна-трактарныя станцыі БССР ахопяць каля 25 раёнаў. МТС зьяўляюцца магутнымі фактарамі ў справе арганізацыі калгаснага прыліву. Так, напрыклад, Койданаўская МТС за год сваёй работы організавала *20 новых калгасаў. Каля 600 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, дзякуючы чоткай клясавай лініі ў рабоце МТС, наперакор правым і „левым" ухілістам, сталі пад сьцяг калектывізацыі.* Вялікую работу па арганізацыі калгаснага прыліву правяла Койданаўская МТС. Толькі за асеньнюю сяўбу яна завярбавала ў калгасы *61 гаспадарку.*

Пад уплывам посьпеху *Танежскай МТС—120 гаспадарак беднякоў, серадзякоў—адзінаасобнікаў уступілі ў калгас.*

МТС супольна з батальёнамі калгасьнікаў упарта змагаюцца за калгасны прыліў. Перамагаючы шалёныя супраціўленьні клясавых ворагаў, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, МТС арганізуе новыя батальёны арганізатараў і агітатараў калгаснага руху з беднякоў і серадзякоў адзінаасобнікаў.

*МТС зьнішчае сталыпінска-прышчэпаўскія хутары, організуе калгасы,*

*уносіць у сельскую гаспадарку новую тэхніку, уносіць карэнны пералом у вядзеньні гаспадаркі, перабудоўвае вёску на сацыялістычны лад.*

Па БССР праходзіць кампанія па заключэньню дагавораў МТС з калгасамі. *Вакол гэтай кампаніі, вакол будаўніцтва фарпастоў суцэльнай калектывізацыі, МТС яшчэ не разгорнута шырокая масавая палітычная работа.* Калдагаворная кампанія павінна замацаваць дасягнутыя посьпехі, узьняць новыя магутныя хвалі калгасных мас на выкананьне і перавыкананьне вытворчых плянаў як МТС, так і калгасаў. *Дагаворная кампанія праходзіць пад баявымі лёзунгамі стварэньня соцень новых калгасаў, баявой падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай сяўбы, барацьбы за сёнешняга калгасьніка, за плянавасьць і вучот у МТС і калгасах.*

Умацаваньне існуючых і будаўніцтва новых МТС зьяўляецца вялікім фактарам для выкананьня пастаноўленых УсеКП(б) задач па калектывізацыі ня менш 45 проц. усіх сялянскіх гаспадарак ў трэці год пяцігодкі. *Аднак, ня ўсе партыйныя і камсамольскія ячэйкі ў дастатковай ступені арганізоўваюць масы рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і адзінаасобнікаў вакол будаўніцтва МТС.* У некаторых раёнах маюцца яўна права-апартуністычныя адносіны да МТС. Так, напрыклад, *у Лёзьнянскім* раёне каля 2-х месяцаў ідзе барацьба за адвод вучастку для МТС. Апартуністыя *з Лёзьнянскага раёну* не прадставілі памяшканьня для трактараў на зімовы час. Трактары стаяць пад адкрытым небам у сьнягу. Неабходна паказаць на ганебны факт напляваецельскіх адносін кіраўнікоў *Горацкага* раёну на будаўніцтва МТС.

Дырэктар МТС ня можа дабіцца месца для будаўніцтва станцыі. „Дзяльцы“ з *Белкалгасбуду* не разумеюць той палітычнай важнасьці, якую надае партыя будаўніцтву МТС і таму да будаўніцтва МТС адносяцца з прахладцам. Камісія, вызначаная для абсьледваньня будаўніцтва *Копыльскага* МТС, выкрыла абураючыя факты шкодніцтва. Выкладзены фундамант і сьцены праведзены па-шкодніцкі і таму ўсю работу прыдзецца пачынаць спачатку. Будаўнічы матар'ял каля 90000 цэглаў камісія зусім збракавала. *Райкалгассаюз,* які здаў гэта будаўніцтва *Белкалгасбуду,* не кіраваў гэтым будаўніцтвам. У выніку шкодніцкай работы, тысячы рублёў выкінуты на вецер.

Прыклады ўзорнай работы ў справе будаўніцтва МТС паказваюць *Лепельскі і Смалявіцкі раёны.* Тут пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый работа разгорнута баявымі тэмпамі.

Па асобных раёнах рэалізацыя акцый трактарацэнтру ідзе нездавальняюча. *А. Асьвейскі, Чырвона-Слабадзкі і Заслаўскі раёны ганебна правальваюць рэалізацыю акцый і тым самым зрываюць будаўніцтва МТС.*

Вялікую ролю ў справе далейшага будаўніцтва МТС зьяўляецца падрыхтоўка кадраў для МТС. Наркамасьветы бюракратычна аднёсься да гэтай важнай задачы. За справу падрыхтоўкі кадраў узяліся самі работнікі МТС. У раёнах дзейнасьці МТС яны арганізавалі вячэрнія школы для калгаснай моладзі. Гэтымі школамі ахоплена звыш 4 тысяч калгаснай моладзі. *У Клімавічах, Койданаве, Гарадку і Копылі* арганізаваны курсы для падрыхтоўкі трактарыстых. На курсах займаецца 284 асобы.

Балючыя пытаньні — гэта забясьпечаньне МТС аграномамі. Большасьць МТС ня маюць аграномаў.

Белкаапсаюз зрывае будаўніцтва нафтахавальнікаў. Ніводнага баку для хаваньня нафты ён яшчэ ня падрыхтаваў.

Вялікую ролю ў справе арганізацыі калгаснага прыліву адыгрываюць трактарныя калёны саўгасаў. К прыкладу прывядзем работу Уваравіцкіх трактарных калён. *Уваравіцкая* трактарная калёна складаецца з 12 трактароў. У час правядзеньня веснавой і асеньняй сяўбы яна абслужыла 16 калгасаў. Працуючы ў дзьве і нават у тры зьмены, яна перакідвалася з аднаго ў другі калгас. Кіраўнікі калёны Якаўцаў, Браўн і Бурны паказалі ўзорныя прыклады работы.

Асобныя калгасы, як імя Чангарскай Дывізіі, імя Калініна ў часе асеньняй сяўбы былі яшчэ не замацаваны. Кулацтва прымала ўсе меры для таго, каб зьнішчыць гэтыя маладыя сацыялі-

стычныя парасткі. Як толькі паведаміла бедната раённы камітэт партыі аб шкодніцкай рабоце кулакоў, у калгас была накірована трактарная калёна. Днём трактарысты ўпарта працавалі на палёх, руйнавалі межы, а вечарамі праводзілі сходы бедноты. Кулакі атрымалі рашучы ўдар. Сяўба была праведзена па-бальшавіцку. Дзякуючы такой рабоце калгасы імя Леніна, імя Чангарскай дывізіі і імя Калініна ня толькі замацаваліся, але самі сталі агітатарамі і арганізатарамі калгаснага прыліву. Трактарысты-ўдарнікі сваім энтузіязмам баявой работы заражаюць калгасьнікаў. Яны паказываюць прыклады дысцыплінарнасьці, яны вучаць калгаснікаў як работаць пановаму, па-сацыялістычнаму. *Калгас імя Будзённага* быў арганізаваны перад сяўбой. Як толькі на палёх калгасу зьявілася трактарная калёна ў чатыры трактары, *у калгас Будзённа а за 2 дні ўступіла 20 бядняцка - серадняцкіх адзінаасобных гаспадарак.* Калгасьнікі-будзёнаўцы першымі ў раёне арганізавалі вярбовачныя камісіі, па арганізацыі калгаснага прыліву.

Вялікую работу трактарысты - ўдарнікі правялі ў калгасе „Рухавік“. Яны дапамаглі калгасьнікам у арганізацыі калгаснага прыліву. *Два пасёлкі Пінчынскага сельсавету ў ліку звыш 30 гаспадарак, дзякуючы ўзорнай работы трактарнай калёны, уступілі ў калгас. 5 новых калгасаў—вынік бальшавіцкай работы Уваравіцкай трактарнай калёны. Звыш 120 гаспадарак адзінаасобнікаў беднякоў і серадняков у час сяўбы ўступілі ў калгас. Арганізавана 12 ініцыятыўных груп і 4 вярбовачных камісіі.* Трактарная калёна па баявому рыхтуецца да другой бальшавіцкай веснавой сяўбы.

*У сувязі з будаўніцтвам МТС у некаторых мясцох назіраецца разбазарваньне конскай цягавай сілы.* Кулакі ў гэтым напрамку вядуць агітацыю за продаж коняй. Неабходна рашуча ўдарыць па такіх праявах.

Рамонт трактараў набывае выключнае значэньне. Койданаўская МТС, не чакаючы дырэктывы зьверху, сама ўзялася за рамонт трактараў. Яна адрамантавала 4 трактары. Копыльская МТС адрамантавала 15 трактароў.

Вытворчыя пляны МТС яшчэ ня ўсюды складзены. Неабходна забясьпечыць выпрацоўку сустрэчных плянаў як у МТС, так і ў калгасе. Пытаньням арганізацыі працы ў МТС павінна быць зьвернута выключная ўвага.

Патрэбна „забясьпечыць перабудову ўсёй партыйна-масавай работы раёнаў тварам да МТС (з пастаноў ЦК УсеКП(б)“.

Разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, сваячасовай падрыхтоўкай сталёвых коняй—МТС нанясём рашучы ўдар кулацтву і іх агентам правым і „левым“ апартуністым.

**Гарбуноў і Салдацёнак.**

## Рыхтуюцца к сяўбе



Калгасьнікі ссыпаюць насенны матар'ял.

# ЗАДАЧЫ ШКОЛ У ПРАВЯДЗЕНЬНІ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ.

Нашы школы прымаюць досыць вялікі ўдзел у правядзеньні партыяй і савецкай уладай розных гаспадарча-палітычных кампаній. У мінулую веснавую пасеўную кампанію шмат якія школы прыймалі актыўны ўдзел у зборы попелу ў калгасах і вёсках, у ачыстцы насеньня і інш. Увосень, у час уборкі бульбы, некаторыя школы аказалі надзвычайна вялікую дапамогу саўгасам і калгасам.

Шмат якія школы прымалі і прымаюць актыўны ўдзел у папулярызацыі калгаснага будаўніцтва сярод бядняцка-серадняцкай масы вёскі, у перавыбарах саветаў, у ліквідацыі няпісьменнасьці сярод саўгасьнікаў, калгасьнікаў, беднякоў і серадьнякоў вёскі.

Але побач з гэтым ёсьць яшчэ цэлы шэраг школ, якія зусім слаба ўдзельнічаюць у сацыялістычным будаўніцтве, у рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, што, бязумоўна, зьяўляецца ненармальным зьявішчам. Усе школы павінны ўключыцца ў сацыялістычнае будаўніцтва і прымаць у ім самы актыўны ўдзел.

Пасьпяховае правядзеньне другой бальшавіцкай пасеўнай кампаніі мае надзвычайна вялікае значэньне ў выкананьні пляну сацыялістычнага будаўніцтва ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі, у выкананьні задач хутчэйшай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Усе савецкія ўстановы і грамадзкія арганізацыі павінны ўсімі сіламі дапамагчы партыі і савецкай уладзе цалкам і поўнасьцю выканаць плян веснавой сяўбы. У выкананьні гэтай задачы вялізарную ролю могуць і павінны адыграць нашы школы, сетка якіх цяпер надзвычайна пашырылася, і палітасьветныя ўстановы: хаты-чытальні, клюбы, чырвоныя куткі і г. д.

У чым-жа канкрэтна можа выявіцца ўдзел школы ў падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы?

Перш за ўсё школы павінны разгарнуць шырокую растлумачальную працу сярод калгасьнікаў, саўгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі аб вялізарным значэньні выкананьня пляну веснавой сяўбы для забясьпечаньня посьпехаў выкананьня пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Сяўба другой бальшавіцкай вясны павінна зьявіцца адным з рашаючых фактараў у выкананьні пляну калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, паводле якога да 1 студзеня 1932 г. у БССР павінна быць калектызавана ня менш 45 % агульнай колькасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР. Адсюль задача ўсіх школ і палітасьветных установ прыняць самы актыўны ўдзел у дапамозе партыйных арганізацый вёскі і сельсаветаў па павялічэньні хвалі калгаснага прыліву і мабілізацыі актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас для арганізацыі новых калгасаў. Шляхам дэманстраваньня дасягненьня лепшых калгасаў, правядзеньня адпаведных гутарак і інш., школы могуць у значнай меры дапамагчы мясцовым арганізацыям у пашырэньні калгаснага руху ў сваім раёне, сельсавеце. Асабліва вялікую працу ў гэтым напрамку могуць прарабіць школы калгаснай моладзі сумесна з мясцовымі камсамольскімі арганізацыямі. Яны павінны арганізаваць спэцыяльныя вярбовачныя брыгады, выявіць бядняцка-серадняцкі актыў вёскі, які можа быць ядром новага калгасу, выявіць прычыны, што перашкаджаюць пашырэньню існуючых або арганізацыі новых калгасаў з тым, каб іх можна было лягчэй перамагчы.

Праца па правядзеньню веснавой пасеўнай кампаніі ўсюды будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і шалёнага супраціўленьня сацыялістычнаму наступленьню з боку кулацтва. Школы павінны выкрываць і выяўляць усе спробы і мэтады кулацкай агітацыі, вясьці растлумачальную працу сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі (асабліва сярод жанчын) аб неабходнасьці ўзмацненьня наступленьне на кулацтва да поўнай ліквідацыі яго як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Для пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі і намечанай падрыхтоўкі

да яе, неабходнае, сваячасовае давядзеньне пляну пасеўкампаніі да кожнае савецкае і калектыўнае гаспадаркі, паселішча і сялянскага двара. Некаторыя прарывы ў мінулую веснавую сяўбу ў паасобных раёнах залежалі іменна ад таго, што пляны пасеўных плошчаў былі несваячасова даведзены да кожнай калектыўнай гаспадаркі і кожнага сялянскага двара (а ў некаторых вёсках і зусім ня былі даведзены да двара да самай сяўбы). У гэтым годзе такіх недахопаў не павінна быць. І задача школ—ня толькі прыняць удзел у давядзеньні засеўных плянаў да кожнае гаспадаркі, але і праверыць як кожная калектыўная і аднаасабовая гаспадарка рыхтуецца да выкананьня вызначанага для яе пляну, якія ёсьць перашкоды, цяжкасьці для выкананьня пляну. У патрэбных выпадках школы павінны арганізаваць належную дапамогу бядняцка-серадняцкім гаспадаркам у выкананьні пляну.

Надзвычайна вялікае значэньне мае для нас пашырэньне засеўных плошчаў яравых культур (на 17,4 проц. па БССР) за лік распашак цаліны, мэліараваных плошчаў, раскарчовак і інш. У выяўленьні ўсіх магчымасьцяй пашырэньня засеўнай плошчы пад яравыя культуры ва ўсіх саўгасах, калгасах, вёсках (нават у паасобных гаспадарках) актыўны ўдзел павінны прыняць усе школы і асабліва школы сялянскай моладзі.

У гэтым годзе ў нас ужо праводзіцца пэўная спэцыялізацыя раёнаў і паасобных саўгасаў і калгасаў. Гэта выклікае пераразьмеркаваньне засеўнай плошчы пад розныя культуры, завядзеньне новых культур. У гэтай справе перабудовы гаспадаркі і пераходу да вызначанай для раёну спэцыялізацыі ўсіх савецкіх, калектыўных гаспадарак вёскі актыўны ўдзел павінны прыняць усе школы і палітычныя ўстановы, папулярызуючы неабходнасьць спэцыялізацыі ў сельскай гаспадарцы і выяўляючы ўсе магчымасьці больш хуткага пераходу да гэтай спэцыялізацыі.

Школы могуць і павінны прыняць удзел у арганізацыі ссыпкі насенных фондаў, рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару, ў распрацоўцы, папулярызацыі і правядзеньні агра-і-заомінімуму ў калгасах і вёсках. Школа павінна дабіцца, каб у гэтым годзе сваячасова і поўнасьцю быў выкананы план ачысткі насеньня ня толькі ў калгасах, але і ва ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарках вёскі. Для гэтага школы павінны арганізаваць спэцыяльныя брыгады па праверцы ходу падрыхтоўкі да веснавой сяўбы наогул і па праверцы ачысткі насеньня ў прыватнасьці, аказваючы патрэбную дапамогу бядняцкім гаспадаркам, дзе няма рабочай сілы.

Ня ўсюды добра яшчэ стаіць справа з зьбіраньнем, захоўваньнем і ўжываньнем попелу, як угнаеньня. Ня толькі ў вёсках, але і ў некаторых калгасах гэта справа пастаўлена дрэнна. Арганізаваць сыстэматычнае зьбіраньне і правільнае захоўваньне попелу ва ўсіх саўгасах, калгасах, вёсках, на прадпрыемствах—адна з практычных задач школы. Школы пад кіраўніцтвам аграномаў павінны забясьпечыць і правільнае скарыстаньне попелу як ўгнаеньня, каб паказаць калгасьнікам і бядняцка-серадняцкім гаспадаркам той эфэкт, які можа даць попельнае ўгнаеньне.

Школы і палітасьветныя ўстановы павінны правесьці ўсю належную падрыхтоўчую працу, каб забясьпечыць дружны выезд у поле, правільнае разьмеркаваньне і скарыстаньне рабочае сілы і сельска-гаспадарчага інвэнтару, правільную і сваячасовую падрыхтоўку глебы для сяўбы і правесьці дружную сяўбу ва ўсіх калгасах, саўгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках вёскі, увесь час праводзіць працу па пашырэньні хвалі калгасаў і прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў.

Зусім зразумела, што ўся праца па падрыхтоўцы і правядзеньню веснавой бальшавіцкай сяўбы павінна зыходзіць з агульнага пляну, дадзенага для данага сельсавету, калгасу, саўгасу, вёскі, яна павінна быць цесна ўвязана з працай усіх мясцовых арганізацый і праводзіцца пад кіраўніцтвам мясцовай партыйнай арганізацыі і сельсавету.

В. Самцэвіч.

# Шырэй фронт калектывізацыі

> „Да канца пяцігодкі калектывізацыя СССР у асноўным павінна быць скончана“
>
> **СТАЛІН**

## ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ

*(Ветрынскі раён)*

Недалёка ад польскай мяжы два гады таму назад на частцы асушаных Наўліцкіх балот (Ветрынскі раён) арганізавалася камуна. Пры арганізацыі, у камуну ўвайшло ўсяго 27 членаў, з якіх 17 дэмабілізаваных чырвонаармейцаў. На першым-жа арганізацыйным сходзе камунары далі камуне назву „Чырвонаармейская імя N-й стралковай дывізіі“.

Вельмі цяжка было распачынаць новае жыцьцё камунарам. Кулацтва з акаляючых вёсак і хутароў гадзінамі сыкалі на нарадзіўшыся сацыялістычны астравок сярод раскіданых па вёсках і хутарох аднаасобных гаспадарак. Самыя рознастайныя чуткі пускалі кулакі сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, стараючыся гэтым самым падарваць жыцьцё нарадзіўшайся камуны. Але выкаваныя ў Чырвонай арміі байцы—з клясавай непрымірымасьцю змагаліся з усялякай хлусьнёй, якая распаўсюджвалася па вёсках адносна камуны, змагаліся за новае жыцьцё. Хутка камуна пры дапамозе дзяржавы пабудавала некалькі дамоў пад кватэры і тады крыху лягчэй стала маладым камунарам, тады і акаляючыя беднякі і серадня́кі інакш сталі глядзець на камуну.

— Што-ж, яно, мабыць, і лепш супольна жыць, чым у адзіночку,—гаварылі адны.

— Напэўна, бо бачыш, што можна зрабіць дружнай супольнай працай,—пацьвярджалі другія.

А арганізаваная ў камуне партыйная ячэйка разгарнула шырокую работу па акаляючых вёсках. Ячэйка растлумачвала бядняцкім і серадняцкім масам вёскі палітыку партыі ў перабудове сельскай гаспадаркі, растлумачвала клясавую сутнасьць кулацкай агітацыі. Шырока праводзілі работу па вярбоўцы ў камуну новых членаў.

Камуна пачала расьці за лік беднякоў і серадня́коў акаляючых вёсак і хутароў. Бядняцка-серадняцкія масы цэлымі вёскамі ўступалі ў камуну, так, напрыклад, увайшлі вёскі Антонавічы, Багушова, Крукі і інш.



На балоце ў Чырвонаармейскай камуне

З 27 членаў—камуна вырасла ў 285.

Асабліва камуна пачала ўзмацняцца з вясны мінулага году, калі раённы камітэт партыі паслаў старшынёй у камуну тав. Чарняўскага.

### Аб чым гавораць лічбы

Кулацтва, бачачы сваю пагібель як клясы перад рашучым наступленьнем сацыялізму, скарыстоўвае апошнія свае сілы для таго, каб пашкодзіць пасьпяховаму ходу калектывізацыі. Кулак шалёна агітуе супроць калектывізацыі, ён распаўсюджвае праз сваіх агентаў самыя агідныя чуткі, нібы ў організаваных калгасах і да вясны хлеба ня хопіць, нібы калгасныя гаспадаркі з кожным днём бяднеюць і г. д. і г. д. Такую-ж шалёную агітацыю праводзіць кулацтва і вакол камуны імя N-й стралковай дывізіі.

Але дарма. Кулацкая агітацыя разьбіваецца аб яскравыя лічбы дасягненьняў і росту, якія камуна мае ў выніку правільнай палітыкі партыі, у выніку правільнага кіраўніцтва мясцовай партыйнай ячэйкі і райкому КП(б)Б.

Вось лічбы, якія гавораць самі за сябе.

Пры арганізацыі камуны (улічваючы і далучыўшыяся потым хутары і вёскі) было: 60 рабочых коняй, 105 кароў і цялят, 55 авец, 40 сьвіней.

А зараз у камуне ёсьць: 74 рабочых кані, 2 племянных жарабкі, 15 штук конскага маладняка, 419 кароў і 170 цялят, 218 авец, 235 сьвіней (з іх 22 племянных маткі), 3 трактары, 2 складаныя малацілкі і неабходныя сельска-гаспадарчыя машыны і інвэнтар.

За мінулае лета камуна пабудавала дзіцячыя яслі (усяго 2 ясьляў у камуне), 2 сталоўкі, сьвіран. Заканчваецца пабудовай вялікі хлеў для буйнай рагатай жывёлы.

У камуне ёсьць майстэрні: кавальская, сталярная, шавецкая, кравецкая, па вырабу аўчын. Ёсьць 2 школы. Нядаўна пабудаваны клюб.

Камуна мае наступны прыбытак ад паасобных галін гаспадаркі: ад паляводзтва—73.000 руб., ад рагатай жывёлы—16.000 руб., ад сьвіней—960 руб., ад авечак—950 руб., ад пчол—400 руб., ад коняй—800 руб., ад сталовак—400 р., і ад майстэрняў—300 руб.



Авёс на балоце ў Чырвонаармейскай камуне быў роўны з чалавекам

Пляны загатовак камуна выканала на 100 проп. Яна здала, напрыклад, дзяржаве каля 96 тысяч *кг* зерня, 154 тыс. *кг* з лішнім бульбы і г. д. Дагавор па кантрактацыі малака камунай выкананы поўнасьцю. Камуна дала гораду масла на 2000 р. па 1 р. 33 к. кілёграм.

Хіба-ж прыведзеныя вышэй лічбы не гавораць аб тым, што толькі аб'яднаньнем дробных сялянскіх гаспадарак у буйную калектыўную магчыма палепшыць дабрабыт бядняцка-серадняцкіх мас вёскі?

Хіба-ж ня ясна, што нашы калектыўныя гаспадаркі не заняпадаюць, а мацнеюць з кожным днём, паказваюць



Ударная брыгада касцоў Чырвонаармейскай камуны

перавагу над аднаасобнай сялянскай гаспадаркай?

Зусім ясна. Толькі клясавы вораг—кулак можа інакш разважаць. Толькі той ня можа бачыць росту нашых калгасаў, хто глядзіць на іх праз праваапартуністычныя акуляры.

### Працуюць па-ўдарнаму

Уся работа ў камуне праходзіць мэтадам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. У час уборачнай кампаніі і асеньняй сяўбы асабліва ўжываліся сацыялістычныя мэтады працы. Арганізаваныя брыгады ў кожным аддзяленьні камуны заключалі паміж сабою дагаворы ў час уборкі ўраджаю і сяўбы азімых.

І толькі дзякуючы сацыялістычным мэтадам працы камунары пасьпяхова справіліся з уборачнай кампаніяй і асеньняй сяўбой. Пад ярыну камунай было засеена рознымі культурамі 500 *г* і акрамя гэтага на асушаным балоце было засеена аўсом, бульбай, кукурузай, сланэчнікамі, вікай—усяго 150 гектар. А былымі адзінаасобнымі гаспадаркамі, што зараз у камуне — засявалася ярыной усяго толькі 200 гектараў.

Камунары ганарацца ўраджаем.

— А ўраджай-жа ў нас быў!.. Ніколі старыкі ня бачылі яшчэ такога. Трэба-ж такі парасьці так усяму!

— Ого!.. Авёс во на балоце, дык роўна з чалавекам...

— А гарох-жа таксама на Крукоўскім полі, дык так парос, што касой не павярнуць было.

— Ды ўсё ўрадзіла, ня тое, што даўней на палосках.

Выпашка ня тая цяпер, межаў няма, затое і ўрода, от што.

Учарашнія яшчэ аднаасобнікі, якія на вузенькіх палосках з захудалай клячай цёрлі бакі высокім з быльнягом межам і за сваю працу бачылі на палітай потам палосцы пляшы толькі, ды сьвірэпку, тыя вось самыя беднякі і серадзякі — сёньня камунары — ведаюць ужо, што дасягнуць высокіх ураджаяў магчыма толькі скасаваўшы межы, аб'яднаўшы дробныя сялянскія гаспадаркі ў буйную—калгас.



Ударная брыгада па прыборцы збожжа Чырвонаармейскай камуны

Вельмі садзейнічае падняцьцю працоўнай дысцыпліны ў камуне разгорнутая сярод камунараў крытыка і самакрытыка. Кожны недахоп у працы зараз-жа зьнішчаецца, як толькі ён дзе выявіцца.

— Ого, у нас цяпер парадак,—расказвае камунарка Т.,—паспрабуй ня выйсьці своечасова кароў даіць, дык цябе адразу на крытыку падымуць на сходзе, а то і на дошку чорную запішуць. Ну, дык мы ўжо адна перад аднэй і старэемся, каб усё было зроблена ўпару.

Вытворчыя нарады, якія рэгулярна праводзяцца,—зацягваюцца да поўначы—толькі таму, што на іх прысутнічаюць заўсёды амаль усе камунары і прымаюць актыўны ўдзел у абгаварэньні ўсіх гаспадарчых пытаньняў камуны. На гэтых нарадах камунары бязьлітасна б'юць па тых, за кім заўважаюцца нядбайныя адносіны да працы. Такі-ж малюнак назіраецца і на агульных сходах членаў камуны.

Надзвычайна вялікую ролю адыгрывае ў гаспадарчым жыцьці камуны насьценгазэта „Камунар“, якая рэгулярна выдаецца. Насьценгазэта вельмі ўдала выкрывае ўсе хібы як у працы асобных камунараў, так і брыгад. Пры насьценгазэце арганізавана тройка па праверцы выкананьня дагавароў па сацспаборніцтву і выяўленьні лепшых ударнікаў на прадмет прэміраваньня іх. Ёсьць селькораўскі гурток з 13 сталых селькораў.



Дзіцячыя яслі ў Чырвонаармейскай камуне

### Кіраўніцтва партячэйкі

У камуне ёсьць партыйная ячэйка з 3 членаў і 8 кандыдатаў. Партячэйка хоць і невялічкая, з малым лікам членаў КП(б)Б, але працаздольная, поўнасьцю аддана жыцьцю камуны. Кожнае гаспадарчае пытаньне камуны ня ставіцца на пасяджэньне праўленьня без папярэдняга абгаварэньня і прапрацоўкі яго на партыйнай ячэйцы.

Асабліва адданы партыйнай працы сакратар ячэйкі тав. Сарокін—рабочы „25-тысячнік“ сормавец. Ён актыўна дапамагае ў штодзеннай працы праўленьня камуны, удаецца ў кожную дэталь гаспадаркі, але не падмяняе сабою тых таварышоў, якія кіруюць той ці іншай галіной гаспадаркі, дапамагае толькі гэтым таварышом. Таварыш Сарокін карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод усіх членаў камуны.

### Камуна рыхтуецца да вясны

Падрыхтоўку да другой бальшавіцкай веснавой сяўбы камуна распачала даўно ўжо.

Арганізаваны збор попелу па аддзяленьнях камуны яшчэ з пачатку восені.

Праводзіцца ачыстка і сартыроўка насеньня. Абгледжаны ўвесь земляробскі інвэнтар і патрэбныя да сяўбы машыны і рамантаюць некаторыя машыны і інвэнтар.

Завезены ўжо адзін вагон угнаеньня. Складзены вытворчы плян, у якім вызначана дасканалая растаноўка сіл у час веснавой сяўбы, а таксама намечана дзе што сеяць і г. д.

Уся ўвага камуны зараз зьвернута на падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

* * *

Ня гледзячы ні на якія перашкоды, змагаючыся з недахопамі ў працы—камуна з кожным днём узмацняецца. Запаленыя творчым энтузіязмам камунары, не зважаючы на шалёную агітацыю кулацтва—шчыра працуюць у супольным жыцьці, змагаюцца за новае жыцьцё.

Шмат дапамагае ў працы камуне шэф, імя якога носіць камуна—N-я стралковая дывізія, а таксама шмат дапамагае і мясцовая камэндантура пагранчасткі Чырвонай арміі.

**С. Сямашка.**

---

# ПА ЛЕНІНСКАМУ ШЛЯХУ

*(Талочынскі раён)*

Там, дзе раней былі маёнткі Зарэчча і Юзапольле і жыў абшарнік Славінскі,—зараз цэнтр буйнага калгасу імя 12-га зьезду КП(б)Б.

Былыя батракі „яснавяльможнага“ пана разам з беднатой у цесным саюзе з серадняком пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі вось тры гады ўжо жывуць у гэтым калгасе. Жывуць так, як ня жылі іх бацькі, дзяды, а жывуць па-новаму, па-культурнаму, па-сацыялістычнаму.

Усіх сямей у калгасе зараз налічваецца 325—59 батракоў, 125 беднякоў, 20 рабочых, 23 служачых, а рэшта—серадцякі.

Яшчэ год—два таму назад большасьць з цяперашніх калгасьнікаў працавалі на паасобных гаспадарках. Спрадвечныя ворагі: дальнязямельле, вузкапалосіца, межы—не давалі магчымасьць, як сьлед, апрацаваць зямлю, гаспадарыць.

Які-ж быў выхад?

А выхад быў толькі адзін: аб'яднаць дробныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў адну буйную, перайсьці на калектыўную апрацоўку зямлі з ужываньнем складаных сельскагаспадарчых машын, з ужываньнем агранамічных парад.

— У гэтым мы пераканалі сябе, што гэта толькі адзіна-правільны шлях і цьвёрдымі крокамі, з упэўненасьцю, пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі пайшлі наперад—пайшлі па шляху калектывізацыі—кажуць калгасьнікі.

Яны аб'яднялі ўсе свае раскіданыя гаспадаркі ў адну буйную калектыўную гаспадарку на плошчы 2225 *га*, з яе пахаці 1555 *га*.

Летась было засеяна 185 *га* бульбы, 126 *га* канюшыны, 20 *га* канюшыны на насеньне, 320,5 *га* аўса, 45,5 *га* ячменю, 25,5 *га* ільну, 31,5 *га* вікі на адкорм, 21 *га* вікі на насеньне. У 1929 годзе было засеяна 241 *га* жыта. Уборку ўсіх збожжавых культур калгасьнікі закончылі раней вызначанага тэрміну. Па пляну трэба было скончыць уборку 25-га верасьня, а калгасьнікі скончылі 20-га верасьня.

Адозва ЦК УсеКП(б) ад 3-га верасьня 1930 г. надала ім яшчэ больш энэргіі. З вялікім запалам узяліся за выкананьне гаспадарчых плянаў. Мелі прарыў на сіласным фронце. Па ўдарнаму ўзяліся за работу і засіласавалі ў 10 ямах 3145 *цнт*.

Трэба было засеяць 291 *га* пад жыта, калгасьнікі перавыканалі гэты плян на 21 *га*,—засеялі 312 *га*. На зіму яравы клін узаралі на 90 проц. усяе плошчы. Абвясьцілі сябе ўдарнікамі, разгарнулі сацыялістычнае спаборніцтва за выкананьне гаспадарчага пляну калгасу. Пашырылі пасеўную плошчу ў 1930 годзе на 30 проц. за лік няўдоб'я, асушкі балот, залежаў, раскарчоўкі.

У калгасе такія ўраджаі: жыта з *га* у сярэднім калгасьнікі зьбіраюць 1248 *кг*,

але ёсьць ураджай і па 1920 *кг* з *га*, у той час як суседзі аднаасобнікі маюць з *га* па 640 *кг*. Авёс „Пабеда“ дае з *га* па 1920 *кг* ураджаю, а ў сярэднім 1440 *кг*, а ў аднаасобнікаў 640 *кг*. Ячменю з *га* сабралі ў сярэднім 1200 *кг*, а ў аднаасобніка 640 *кг*, пшаніцы з *га* ў сярэднім дала 1504 *кг*, а ў аднаасобнікаў 750 *кг*.

— Правыя ўхілістыя казалі, што без кулакоў дзяржава быццам-бы не абойдзецца, нібы яны кармілі ўсю краіну і зараз будзе голад. Глупства!

Мы ня толькі пакрылі кулацкія пасевы, але і перавысілі іх. У гэтым годзе наш калгас здаў дзяржаве 48.000 *кг* жыта, 128.000 *кг*, капусты 90.000 *кг* бульбы, 7 вагонаў гародніны, 4 вагоны яблык, 6 вагонаў яблачнага цеста і шмат іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў. Калгас здаў 3.783 *кг* масла,—кажа старшыня калгасу тав. *Тарасевіч*.

Калгас аказаў вялікую дапамогу акаляючым калгасам, а таксама паасобным беднякам і серадняком у правядзеньні вясеньняй сяўбы, уборкі ўраджаю, у малацьбе і г. д.

У гэтым годзе прыбытак ад паляводзтва ў калгасе складае 210.644 руб., садоўніцтва 57.000 руб., жывёлагадоўлі— каля 70.000 руб., прамысловасьці — 25.000 руб.

Калгасьнікі разьмеркавалі прыбыткі паміж сабою па колькасьці і якасьці працы кожнага. У сярэднім на кожную сям'ю прыпадае па 687 руб.

Гэта такі прыбытак, якога ніхто раней з іх ня меў, як жылі на паасобных гаспадарках.

Шырока разгорнута ў калгасе будаўніцтва. Пабудавана 10 дамоў, адна сталоўка на 300 чалавек, сілосная вежа, 10 сілосных ям, хлебны сарай і 2 сьвінарнікі—гэта за адзін год дружнай упартай работы калгасьнікаў. Пасадзілі летась 35 *га* саду, пабудавалі завод па перапрацоўцы садавіны і млын.

Калі ў 1929 г. у калгасе ня было сьвіней, дык зараз іх у калгасе ёсьць: 170 сьвінаматак, 192 падсьвінкі, 219 парасят, 4 кныры. Будуецца вялікі сьвінарнік на 300 сьвінаматак. Ёсьць у калгасе 305 абагуленых кароў, 231 цялё, 12 быкоў, 150 рабочых коняй, 50 маладняку, 5 жарабцоў—арлоўскай і палепшанай пароды, 42 калоды пчол.

Калгасьнікі набылі шмат розных с.-г. машын, у калгасе ёсьць: 7 радавых сеялак, 8 жняярак, 15 сартыровак, 3 складаныя малатарні з мэханічным прыводам і 3 конныя малатарні. Набылі нафтавы 36-сільны рухавік, гантарэзку, пабудавалі масларобчы завод. Ёсьць таксама касаркі, конныя граблі і шмат іншых с.-г. машын. Калгас мае 6 трактароў, якія значна аблягчаюць працу калгасьнікаў. Трактары абслугоўваюць суседнія калгасы Талочынскага, а таксама Круглянскага і Крупскага раёнаў.

У калгасе ёсьць дзіцячыя ясьлі на 30 дзяцей. Летам працавала дзіцячая пляцоўка на 85 дзяцей—усё гэта ў значнай ступені палегчыла работу жанчын, вызваліла яе ад клопату. Калгасьнікі падпісаліся на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ на 6.545 руб. і на „трактарную“ пазыку на 625 руб.

Усе гэтыя перавагі калгасу над аднаасобнай бядняцкай і серадняцкай гаспадаркай бачаць ваколічныя аднаасобнікі. *За час уборкі ўраджаю і асеньняй сяўбы ў калгас уступіла 69 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.*

У дзень ураджаю і калектывізацыі калгасьнікі заявілі:

Мы зварачваемся да ўсіх батракоў беднякоў і серадняком—аднаасобнікаў з заклікам стаць на калгасны шлях і пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі змагацца за суцэльную калектывізацыю і на аснове яе—за ліквідацыю кулацтва як клясы. Выходзьце на новы, сьветлы шлях жыцьця, на шлях шырокага росквіту, шлях, які хутка паляпшае дабрабыт батрака, бедняка і серадняка, які вядзе нас да сацыялізму. Мы не сыйдзем з калгаснага шляху. На базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуем кулацтва як клясу“!.

**Я. Шкадарэвіч.**

# УЗМАЦНЕНЬНЕ КАЛГАСАЎ— УДАР ПА КУЛАКУ

*(Полацкі раён)*

Камуна „Чырвоная Зорка“ (Полацкі раён) старая ўжо,—шмат год як арганізавалася яна з былых батракоў —перажыла шмат цяжкасьцяй і розных паклёпаў з боку кулацтва. Але, ня гледзячы ні на вошта, арганізаваныя батракі, да якіх потым далучыліся і некалькі беднякоў з акаляючых вёсак,—шчыра працавалі на калектыўных палетках, будавалі новае жыцьцё. Пад кіраўніцтвам мясцовай партыйнай ячэйкі маладыя камунары перамагалі ўсе цяжкасьці, рухаліся наперад.

А цяжкасьцяй шмат пераражылі.

У першыя гады камунары цярпелі вострыя недахваткі з адзежай і абуткам, бо ўвесь поўнасьцю з гаспадаркі прыбытак камунары ўкладалі ў гаспадарку: здабывалі коняй, кароў, патрэбны землябробскі інвэнтар і г. д. І толькі дзякуючы дружнай працы, дзякуючы правільнаму кіраўніцтву з боку мясцовай партыйнай арганізацыі—ня гледзячы на ўсялякія цяжкасьці і перашкоды—камуна з кожным годам расла і ўзмацнялася.

І дзякуючы таму, што камуна з кожным годам мацнела і пашыралася, усё больш і больш заваёўвала аўтарытэт сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі,—кулацтва яшчэ горш пачало пускаць па ваколіцы розныя чуткі, шалёна пачало агітаваць сярод беднаты і сераднякоў—аднаасобнікаў.

— Прыгон, а ня жыцьцё,—гаварылі кулакі,— працуюць людзі няведама на каго, посьніцу церпяць, бяз хлеба ядуць...

Але дарма.

Кулацкая агітацыя ня мела ніякіх посьпехаў. Дый ці-ж можна было паверыць кулацкай хлусьні, калі беднята і сераднякі акаляючых вёсак сваімі вачыма бачылі, як жывуць камунары?

Ужо ў 1928 годзе ў камуне было шмат кароў, некалькі коняй, дробная жывёла. Набылі трактар. Адрамантавалі старыя панскія будынкі. Шмат палепшылася матар'яльнае становішча камунараў.

... Камуна мацнела.

## Росквіт камуны

Мінулы 1930 год быў годам асабліва ўздыму гаспадаркі камуны „Чырвоная Зорка“.

У пачатку таго-ж году ў камуну ўваходзяць усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі Экіманьскага сельсавету і вясною, калі шмат якія калгасы па Полацкаму раёну мелі вялікія адлівы,—камуна „Чырвоная Зорка“ мела зусім нязначны адліў. А пазьней крыху, у самую веснавую сяўбу, камуна зноў прыняла некалькі новых членаў з беднякоў. Цікава тое, што ў камуну падавалі і зараз падаюць заявы аб прыёме беднякі і сераднякі з іншых раёнаў за 30—40 кілёмэтраў. Так,



Брыгада касцоў Чырвонаармейскае камуны (Ветрынскі раён)

напрыклад, падаўся ў камуну серадняк Яршоў з Расонскага раёну (35—40 кілёмэтраў ад камуны).

Камуна займае зараз усю тэрыторыю Экіманьскага сельсавету і лічыцца самай моцнай калектыўнай гаспадаркай па Полацкаму раёну. Лічыцца моцнай ня толькі таму, што займае вялікі абшар (усе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі гэтага сельсавету ў камуне), а галоўным чынам па сваёй гаспадарчай моцы, па свайму росту ва ўсіх галінах, якога камуна дасягнула асабліва ў мінулым 1930 годзе. Аб гэтым гавораць наступныя

## Лічбы і факты

Дзякуючы актыўнай і дружнай працы камунараў і ўмеламу кіраўніцтву гаспадаркай старшыні камуны тав. Будзько, камуна за год (ня поўны нават, пачынаючы з вясны) пабудавала: сьвінарнік на 50 сьвіней, скотны двор на 200 галоў кароў, сіласную вежу і засіласавана каля 40 тысяч пудоў сілоснай масы. Будуецца і хутка будзе ўжо гатова новая сталоўка на 250 чалавек. Таксама будзе хутка скончан пабудовай дом пад кватэры на 8 сямей камунараў. Усё гэта зроблена сіламі камунараў.

Увосень 1930 году камунай пасаджана 30 *га* маладога саду і падрыхтавана глеба і саджанцы для пасадкі ў надыходзячую вясну на плошчы ў 40 *га*.

— У нас садова-гародны і малочны напрамак мае гаспадарка,—кажа старшыня камуны тав. Будзько,—на гэтыя галіны мы і нажымаем.

Хлебазагатоўкі камуна выканала ў гэтым годзе на 300 процантаў. Адным словам, у гэтую хлебазагатоўчую кампанію камуна дала дзяржаве прыблізна разы ў тры больш хлеба, чым давалі аднаасобныя гаспадаркі ўсяго Экіманьскага сельсавету разам з камунай у мінулыя гады.

Па кантрактацыі здадзена камунай 7 вялікіх сьвіней і 40 маладых. Авец здалі 70 штук. Для калгасаў камуна дала 150 галоў маладняка буйнай рагатай жывёлы.

Камунай у цэлым і кожным камунарам у асобку здабыты аблігацыі пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“, усяго на суму каля 4 тысяч рублёў. Акрамя таго, камунары адлічваюць з свайго заробку ў фонд абароны краіны (на пабудову дырыжабляў).

Зараз у камуне маецца 200 галоў буйнай рагатай жывёлы, звыш 30 штук маладняка, 40 коняй рабочых і 8 штук конскага маладняка, 30 штук авец, 100 сьвіней, акрамя малых парасят. Маюцца неабходныя сельскагаспадарчыя машыны і інвэнтар, трактар. Маецца свая лесапілка, сталярная майстэрня, кузьня... Між іншым пра каваля старшыня камуны расказвае:

— Добры каваль і сьлесар, але часам вымагае з камуны залішнюю сабе пэнсію. Вясною быў кінуўшы камуну з-за пэнсіі і паехаў кудысьці ў гарадціі што, а мы з сябраў камуны аднаго хлопца паставілі каваць. А потым, увосень ужо, зьявіўся зноў наш каваль і пачаў прасіцца, каб зноў прынялі кавалём у камуну...

— Да дзе ён лепш знойдзе, як у камуне,—перарваў старшыню камунар-барадач,—тут кожны і адзеты, і абуты, хлеба хапае і поснага ніколі не ядзім.

... Дык мы яго зноў прынялі, але каля яго і маладых хлопцаў-комсамольцаў вучым, хай свае будуць і кавалі.

## Як прайшла ўборка ўраджаю і асеньняя пасеўкампанія

Ня гледзячы на тое, што шмат было работы па будаўніцтву, камуна вельмі добра справілася з уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніямі. Правільная арганізацыя працы і наогул добры гаспадарчы распарадак, сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва,—усё гэта спрыяла пасьпяховаму правядзеньню гэтых важнейшых палітычных кампаній.

— Ніводнай пасмы сена і канюшыны, ніводнага снапа збожжа не згнаілі, усё прыбралі ў пару,—ганарацца камунары.

Расстаноўка сілы была чоткая ў час уборачнай і пасеўнай кампаніі. Такая-ж расстаноўка сіл заўсёды маецца, кожны ведае сваю справу і сумленна выконвае яе. А калі прыкмячаюць недахоп у працы—на агульных сходах членаў камуны

і так у прыватных гутарках мэтадамі крытыкі і самакрытыкі—зьнішчаюць маючыя недахопы, заўважаныя за тым, ці іншым камунарам.

Пасеў азімых таксама правялі своечасова.

Скончыўшы ўборку, пасеў азімых і малацьбу—камунары адразу-ж распачалі падрыхтоўку да другой бальшавіцкай вясны.

## Работа партячэйкі

У камуне маецца партыйная ячэйка з 17 чалавек (з іх усяго толькі 4 сябра КП(б)Б, астатнія кандыдаты) і ячэйка КСМ, якая налічвае каля 25 чалавек. Трэба сказаць, што партячэйка ў апошнія часы ня досыць адчуваецца ў гаспадарчым жыцьці камуны.

Асабліва адчуваецца слабая работа ячэйкі ў галіне культасьветнай працы. Вылучаны ячэйкай таварыш для арганізацыі культасьветнай працы недастаткова ўдзялае ўвагі па выкананьню сваіх абавязкаў. Дзякуючы гэтаму вельмі часта зрываюцца заняткі гурткоў, а некаторыя гурткі зусім не працуюць.

На працу партыйнай ячэйкі ў камуне „Чырвоная Зорка“ раённаму камітэту партыі трэба зьвярнуць увагу.

* * *

Сацыялістычныя мэтады працы (сацспаборніцтва і ўдарніцтва), якія ўжываюцца ў камуне пры выкананьні любой работы—яшчэ больш замацоўваюць дасягнутыя посьпехі, яшчэ шпарчэй камуна ідзе наперад да новых дасягненьняў. Нездарма-ж камуна прыцягвае да сябе ўвагу бядняцка-серадняцкіх мас акаляючых вёсак. Нездарма-ж у камуну ідуць беднякі і серадняки з далёкіх раёнаў.

Узмацненьне і пашырэньне камуны зьяўляецца мацнейшым ударам па кулаках з акаляючых хутароў.

**С. С-ка.**



Ударнік т. Жыўтач Антось рамантуе прычэпны трактарны плуг (камуна „Праца“, Каралінскі раён)

# КАЛГАС „ПЕРАМОЖЦА“

*(Бярэзінскі раён)*

Калгас „Пераможца“ малады яшчэ, арганізаваўся толькі ў студзені месяцы 1930 году, але ён мае ўжо пэўныя дасягненьні і належную матар'яльную базу, каб шпаркімі крокамі разьвівацца далей і стаць прыкладам для ваколічнага бядняцка-серадняцкага насельніцтва.

На 15-XI-30 г. у калгасе было 70 гаспадарак, з іх: батрацкіх—8, бядняцкіх—18 і серадняцкіх—44 гаспадаркі.

Зямельная плошча калгасу 1000 *га*. Гэта агульная плошча разьмяркоўваецца наступным чынам: пахаці каля 700 *га*, пад сенажацямі - 100 *га*, пад сядзібамі і агародамі каля 80 *га* і інш. 20 *га*.

Калгас спачатку было ўзяў насенаводны ўхіл, але цяпер паводле цьвёрдага заданьня райкалгассаюзу ён будзе спэцыялізавацца ў галіне сьвінагадоўлі.

У часе веснавой пасеўнай кампаніі ў калгасе было засеяна: аўса 133 *га*, пшаніцы яравой 2,5 *га*, ячменю 9 *га*, грэчкі 27 *га*, лубіну 30 *га*, лёну 10 *га*, бульбы 20 *га*, гароху 20 *га*. Валавая прадукцыя палявых культур вылічана ў 35.064 р., а ўся прадукцыя—у суме 39—672 р. (арыентыровачна); у сярэднім на 1 гаспадарку 566 р. 68 к.

Чыстага прыбытку гаспадарка калгасу (толькі па яравому кліну) дала на суму 16.060 руб. (на 1 гаспадарку ў сярэднім 229 р. 43 к.), ня ўлічваючы, зразумела, прыбыткаў ад індывідуальнай часткі гаспадарак і заробкаў на старане.

Азімых пасеваў засеяна наступная колькасьць: жыта 170 *га* і пшаніцы 8 *га*. Калгас мае 18 агульных жылых будынкаў і розных хлявоў і халодных будынкаў—276, хаця трэба адзначыць, што будынкі гэтыя вельмі раскіданы і невялікіх разьмераў. Зараз пабудован сьвінарнік і прыстасоўваецца шэраг розных дробных будынкаў для больш рацыянальнага іх скарыстаньня ў калгасе (хлявы для кароў, коняй, цялят і інш.). Разгортваньне будаўніцтва адпаведнага запатрабаваньнем буйнае калектыўнае гаспадаркі зьяўляецца аднэй з чарговых і неадкладных задач калгасу.

У калгасе ў сучасны момант маецца наступны с.-г. інвэнтар: саламарэзак—6, сеялак—1, сартыровак—1, жняярак конных—3, малатарняў—5, веялак—7, барон дыскавых—1, Зіг-Заг—8, плугоў паваконных—32 і барон звычайных—42.

Калгас мае досыць вялікую колькасьць абагуленай жывёлы: коняй рабочых—71, жарабят—30, кароў—33, нецеляў—30, цялят—24, сьвіней звыш 1 г.—39, падсьвінкаў—27, парасят—14 і авечак—85.

У калгасе ўжо намячаецца цэлы шэраг мерапрыемстваў для палепшаньня жывёлагадоўлі: пабудова абсталяваньня і ўцяпленьне хлявоў, палепшаньне догляду за жывёлай, больш рацыянальнае скарыстаньне кармоў, перагляд укамплектаваньня статку калгасу з боку прадукцыйнасьці жывёлы і г. д. Некаторыя з гэтых мерапрыемстваў будуць праведзены ў жыцьцё на працягу 1—2 месяцаў.

У сэнсе арганізацыі працы ўсе калгасьнікі былі разьбіты на 4 брыгады. Склад брыгад залежыў ад тэрыторыяльнага распалажэньня двароў калгасьнікаў. Усе віды (асноўныя) работ былі падзелены на паасобныя апэрацыі, якія патрабавалі пэўнай кваліфікацыі і фізычнай сілы. Напр., жніво як складаны від працы, падзялялася на апэрацыі: жніво жняяркай, жніво сярпом і вязаньне снапоў; вязаньне снапоў з-пад жняяркі, накладаньне вазоў, возка снапоў і інш. Для аплаты працы калгасьнікаў, у залежнасьці ад выконваемых імі апэрацый, была ўстаноўлена пяціразрадная тарыфная сетка.

Да I разраду былі аднесены падлеткі, баранавальнікі, прыбіральшчыцы памяшканьня, падпаскі, перапісчыкі;

да II разраду стопнік, судамойкі, даяркі і працаўнікі па возцы, падаваньню, носцы і складаньню снапоў і саломы;

да III разраду начныя вартаўнікі, конюхі, працаўнікі па складаньню сена ў копы, пе-

равозцы цяжараў, сіласаваньню, жнеі (сярпом),

Да IV разраду шаўцы, краўцы, рымары, сяўцы, малатарнікі, стальмахі, старшы сьвінар, сакратар, скарбнік і інш.,

Да V разраду старшы кравец і шавец, млынар, рахункавод, загадчык калгасу.

Для кожнай з паасобных апэрацый вызначана была і норма выпрацоўкі. Ніжэй мы падаем табліцу нормы выпрацоўкі па паасобных апэрацыях працы і аплаце гэтае працы:

| Назва апэрацыі працы | Норма выпрацоўкі ў 8 гадз. | Разрад па тарыф. сетцы | Аплата | Увага |
|---|---|---|---|---|
| Ворыва 2-лямешным плугам | 0,4 *га* | IV | 2 р. 20 к. | Некаторыя работы аплачваліся зьдзельна, напр.: зрабіць раму у барану 1 р. 50 к., зрабіць новую драбіну—5 р., цэбар—1 р. 25 к. і г. д. |
| „ аднालямешным плугам | 0,25 *га* | IV | 2 „ 20 „ | |
| Баранаваньне звыч. бараной | | I | 1 „ 10 „ | |
| „ „Зіг-Заг“ | | IV | 2 „ 20 „ | |
| Жніво сярпом з вязк. снапоў | — | III | 1 „ 80 „ | |
| Вязаньне снапоў з-пад жняяркі | 0,3 *га* | III | 1 „ 80 „ | |
| Касьба канюшыны | 0,2 *га* | II | 1 „ 40 „ | |
| „ сенажаці | 0,25 *га* | IV | 2 „ 20 „ | |
| Даеньне кароў | 2 разы ў дзень па 10-12 кароў | II | 1 „ 40 „ | |
| Капаньне гною | 18 вазоў па 10 кап. за воз | | | |

Зразумела, што прыведзеныя вышэй нормы выпрацоўкі не зьяўляюцца ўжо канчаткова ўстаноўленымі. У працэсе далейшай працы і практыкі яны будуць пераглядацца і, магчыма, зьмяняцца. Устанаўленьне норм выпрацоўкі з самага амаль пачатку арганізацыі калектыўнае працы мела вялікае значэньне ў сэнсе забясьпечаньня дысцыпліны працы і пэўнай яе прадукцыйнасьці, чаго нельга сказаць адносна некаторых іншых калгасаў, дзе працоўная дысцыпліна кульгае і была нізкая прадукцыйнасьць працы з прычыны адсутнічаньня зьдзельшчыны і цьвёрдых норм выпрацоўкі.

Досыць стала арганізаваная праца ў калгасе дала зусім здавальняючыя вынікі пры падліку і разьмеркаваньні ўраджаю. Прывядзем два прыклады атрыманага прыбытку паасобнымі гаспадаркамі.

Батрак Крывец Іван з сям‘ёй у 3 чал., з якіх працаздольных 2, атрымаў 2,1 т. бульбы, 11,5 цэнтн. аўса, 5 цэнтн. грэчкі, 0,83 ячменя, 1 т. сена, 1,58 т. саломы і 170 р. грашыма.

Серадняк Паддубскі Ціхан на 10 чалавек сям‘і пры 5 працаздольных атрымаў 3,33 т. бульбы, 15 цэнтн. аўса, 7,17 цэнтн. грэчкі, 1,17 цэнтн. ячменю, 1,37 т. сена, 2 тоны саломы і грашыма 238 р. (ураджай ад азімых ня ўлічваўся, паколькі азімыя пасевы рабіліся індывідуальнымі гаспадаркамі да аб‘яднаньня ў калгас).

Досыць сталая арганізацыя працы ў калгасе і дасягнутыя посьпехі ў гаспадарцы, выяўленыя пры разьмеркаваньні ўраджаю, зрабілі прыметны пералом у адносінах да калгасу адзінаасобнікаў, якія раней недаверліва адносіліся да калгасу, адмаўляліся ад усякай дапамогі калгасьнікам і выступалі супроць ка-

лектыўнае гаспадаркі. Цяпер, пасьля справаздачы калгасу аб выніках гаспадарчага году і непасрэднага перакананьня ў выгадзе калектыўнай працы, бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі пачалі ўжо падаваць заявы аб прыняцьці іх у калгас. За кастрычнік месяц падана ўжо 7 заяў. Бязумоўна, лік гэты значна павялічыцца ў бліжэйшыя месяцы.

У калгасе ёсьць школа, арганізаваны 2 лікпункты. Палітычнае выхаваньне і культпраца ў калгасе яшчэ належным чынам не разгорнута. На гэты бок працы трэба зьвярнуць асабліва вялікую ўвагу, паколькі сярод калгасьнікаў (і асабліва калгасьніц) ёсьць яшчэ вялікі процант няпісьменных і малапісьменных і досыць моцнымі застаюцца яшчэ індывідуалістычныя імкненьні. У калгасе зусім нязначная партыйная і камсамольская праслойка: ёсьць толькі 3 партыйцы і 3 камсамольцы.

Першы цяжкі арганізацыйны момант у жыцьці калгасу ўжо перажыты. Калгас мае пэўную матар'альную базу для свайго далейшага разьвіцьця. Вынікі першага няпоўнага году калектыўнага вядзеньня гаспадаркі ўпэўнілі як саміх калгасьнікаў, так і тых беднякоў і сераднякоў, якія яшчэ ня ўступілі ў калгас, што шлях калгаснага будаўніцтва, вызначаны камуністычнай партыяй, зьяўляецца адзіным правільным шляхам разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

На сваім уласным цяжкім вопыце беднякі і сераднякі былой вёскі Капланцы пераканаліся, што не сталыпінскія і прышчэпаўскія хутары, а буйныя калектыўныя гаспадаркі зьяўляюцца сапраўдным шляхам палепшаньня становішча бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

**В. Самцэвіч.**





Ударнік, дэмабілізованы чырвонаармеец т. Мардусевіч, рамантуе сеялку. (Калгас „Наперад", Нараўлянскі раён).

# За высокі ўраджай

## РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ КУЛЬТУРЫ БУЛЬБЫ

Культура бульбы ў БССР з кожным годам шпарка пашыраецца і на рацыяналізацыю яе павінна быць зьвернута шмат увагі. Перад рацыянальнай культурай бульбы трэба разумець цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія-б дапамагалі даць найвышэйшы ўраджай з мінімальнымі затратамі на яе культуры. К такім мерапрыемствам, павялічваючым ураджайнасьць бульбы, трэба аднесьці: 1) апрацоўка глебы, 2) угнаеньні, 3) месца ў севазвароце, 4) пасадка, 5) догляд у пэрыяд росту, 6) гатунковае насеньне, 7) прыборка, 8) захаваньне на зіму, 9) скарыстоўваньне бацьвіньня на сілас.

### Апрацоўка глебы

Бульба любіць лёгкія супясчаныя і сугліністыя глебы. Ня дрэнна ўдаецца і на добра ўгноенай пескавой глебе, а таксама і на цяжкіх сугліністых глебах. Але на апошніх ёй можа шкодзіць лішак вільгаці, якая будзе садзейнічаць разьвіцьцю розных хвароб на бульбе, як мокрая гніль і інш. Таксама цяжкія глебы ня спрыяюць утварэньню крухмалу. Бульба любіць добра апрацаваную, пульхную глебу. Затым, незалежна ад папярэдняй культуры, апрацоўку глебы пад бульбу трэба пачынаць з восені і пры тым на поўную глыбіню каля 18—20 *см*. Вясною карысна зрабіць другую больш мелкую ўзворку на 10—13 *см*. Калі-ж па гаспадарчым умовам, сваячасова вясною ўзворку зрабіць нельга, дык трэба як мага раней пабаранаваць поле, інакш глеба страціць вільгаць і ўраджай значна зьнізіцца.

### Угнаеньні

Бульба любіць добра ўгноеную глебу. Пад бульбу ўносіцца як гной, так і штучныя ўгнаеньні. Калі непасрэдна пад бульбу няма магчымасьці ўнесьці ўгнаеньні, дык трэба старацца яе сеяць пасьля ўгноенай культуры. Бульба добра ўдаецца па гною, але калі яго кладзецца вельмі шмат, дык ён можа мець шкодны ўплыў на ўраджай, бо ад лішку ўнесенага гною пад бульбу, на апошняй можа павялічыцца лік хвароб і зьнізіцца процант крухмалу. Гной пад бульбу лепш уносіць з восені, чым вясною. Пры тым гной, у які дамешваўся ў подсьцілку торф, лічыцца лепшым і значна больш падвышае ўраджай, чым гной з аднае саломы. Пры нястачы гною яго могуць замяніць штучныя ўгнаеньні, якія ў нас маюцца трох відаў: 1) азоцістыя (салетра і сернакіслы алюміні), 2) фосфарна-кіслыя (супэрфасфат, фосфарная мука і інш.) і 3) калійныя солі.

Пад бульбу кладуць штучныя ўгнаеньні, прыкладна, ў гэткіх колькасьцях:

| | | |
|---|---|---|
| Салетра або сернакіслы алюміні | . — | 0,9—1,2—1,5 цнт. *га* |
| Супэрфасфат . | . — | 2,7—3,6 цнт на *га* |
| Калійная соль 30% | | 1,6—1,8 „ „ „ |

Трэба памятаць, што пры ўнясеньні адных азоцістых і калійных соляй бяз фосфарна-кіслых угнаеньняў значна зьніжаецца проц. крухмалу. Каб зьнішчыць гэтую небясьпеку, трэба абавязкова дабаўляць да іх фосфарна-кіслыя ўгнаеньні як супэрфасфат, фосфарная мука і інш.

Фосфарна-кіслыя солі ня толькі павышаюць ураджай, але і маюць добры ўплыў на адначасовае і нармальнае пасьпяваньне клубняў. Добры ўраджай можна атрымаць унёсшы палову гною і палову нормы штучных угнаеньняў.

### Месца ў севазвароце

Бульбу ў севазвароце можна зьмяшчаць пасьля любой расьліны, даўшы ўгнаеньне. Так, калі непасрэдна пад бульбу ўгнаеньне не кладзецца, а гной кладзецца пад азімае, дык яе трэба



Падлік заработанай платы калгасьнікаў (Кінеласкі раён, Волжк).

садзіць пасьля азімых. У тых-жа севазваротах, дзе ёсьць бабовыя расьліны, як канюшына, сэрадэля, лубін і інш., то карысна садзіць бульбы пасьля гэтых культур тым, што яны абагачаюць глебу азотам і ўраджай бульбы значна павялічыцца. Прычым пасьля шматгадовых траў трэба добра апрацоўваць глебу. Для бедных пескавых глеб можна прыстасоўваць зялёныя ўгнаеньні, як лубін. Для раньніх гатункаў як эпікур і раньняя ружа і інш. добрым месцам у севазвароце лічыцца папар.

Такім чынам мы будзем мець заняты бульбяны папар.

### Пасадка бульбы

На пасадку бульбы ў нас ня прывыклі зьвяртаць увагі, аднак, ад спосабу пасадкі таксама залежыць ураджай. Звычайна ў нас бульба садзіцца пад плуг і кідаецца проста на дно баразны. Гэткай пасадкі бульба вельмі ня любіць. Яе трэба садзіць у бок баразны ў мяккую глебу. Ад такой пасадкі ў бок баразны бульба дае падвышэньне ўраджаю каля 15 цэнтн. на *га*.

Самай лепшай глыбінёю пасадкі бульбы можна лічыць глыбіню 9 *см*. Пры пасадцы бульбы шырыня міжрадзьдзяў павінна быць каля 60 *см* і адлегласьць у радох бульбін між сабою пры сярэдняй велічыні іх з курынае яйцо ад 40—53 *см*.

Ураджай бульбы таксама залежыць і ад часу пасадкі. Садзіць бульбу трэба ў добра нагрэтую зямлю, прычым старацца садзіць як мага раней, бо позьняя пасадка, асабліва позьніх гатункаў, зьніжае ўраджай. Але трэба памятаць, што ўсходы бульбы баяцца замаразкаў і занадта раньняя пасадка ў халодную і сырую глебу можа вельмі пашкодзіць.

Таксама трэба зьвяртаць увагу і на пасадачны матар'ял. У нас часта на насеньне адбіраюць самыя дробныя клубні. Такімі клубнямі садзіць нельга з той прычыны, што дробязь гэтую мы атрымоўваем у большасьці ад хворых кустоў, а значыць і ўвесь палетак дасьць хворыя кусты, і год ад году бульба выраджаецца і будзе даваць мізэрныя ўраджаі. Вельмі вялікімі клубнямі таксама нельга садзіць затым, што пойдзе вельмі шмат насеннага матар'ялу. Рэзаць клубні наогул ня варта, затым, што праз параненае месца ў клубень лёгка пападаюць розныя хваробы, якія зьнішчаюць ураджай.

Самым лепшым пасадачным матар'ялам лічацца клубні велічынёю з курынае яйцо. Садзіць бульбу прама з склепу, альбо з капца ня раяць, затым што ад такой пасадкі бываюць няроўныя—ня дружныя ўсходы і шмат выпадаў, асабліва ў халодную і сырую вясну. Карысна перад пасадкай бульбу правяліць. Для гэтага бульбу рассыпаюць у сьвежых памяшканьнях, з добрай вэнтыляцыяй і трымаюць некалькі дзён, пакуль яна не страціць ад 10 да 20 проц. вады і не зьявяцца парасткі. Калі няма такога памяшканьня, то ў добрае надвор'е раскладваюць невялікімі кучкамі проста на дварэ. Правяленыя такім чынам клубні хутчэй дадуць усходы і пры тым роўныя—дружныя.

### Догляд у пэрыяд росту

Догляд за палеткам бульбы састаіць у тым, што каб захаваць яго ў чыстаце ад пустазельля і каб абараніць глебу ад коркі, якая вельмі лёгка зьяўляецца ад дажджу. Для гэтага прымяняецца баранаваньне і асыпаньне.

Па досьледах Ц. Бульбянай Станцыі найлепшым тэрмінам баранаваньня зьяўляецца тэрмін на 10—15 дзень пасьля пасадкі. Гэты тэрмін дае найменшы процант няўсхожасьці кустоў. Калі ўсходы падымуцца на 13—20 *см*, карысна конным плянэтам праматыкаваць міжрадзьдзі. Калі-ж няма коннага плянэта, дык гэта можна зрабіць асыпнікам, для чаго патрэбна звузіць крыльлі. Тыдняў праз 1½—2 трэба зрабіць асыпаньне, толькі трэба сачыць, каб не заваліць кустоў, бо яны могуць і загінуць.

Пачакаўшы трохі пакуль бульба падрасьце, трэба яшчэ раз асыпаць. Калі-ж бульба пачала цьвісьці, асыпаньне трэба спыніць. Адным словам, калі лета сухое, можна абыйсьціся адным асыпаньнем, калі-ж лета сырое, дык карысна асыпаць два і тры разы. Калі-ж поле, ня гледзячы на асыпаньне, многа зарастае пустазельлем, дык трэба зрабіць ручную полку, таму што пустазельле прыносіць вельмі вялікую шкоду бульбе.

### Гатунковае насеньне

Гатункаў бульбы налічваецца больш двух тысяч. Усе яны адрозьніваюцца паміж сабою як па ўраджайнасьці, так і па крухмальнасьці, а таксама і па другіх гаспадарчых адзнаках. Негатунковая бульба мае нізкую ўраджайнасьць і крухмалістасьць. Гатунковая-ж бульба мае высокую ўраджайнасьць і крухмалістасьць. Па дадзеных дасьледчых станцый гатунковая бульба дае ўраджай на 20—30 проц. больш негатунковай. Гатунковая бульба менш паражаецца хваробамі. Гатунковая бульба лепш захоўваецца на зіму.

### Прыборка бульбы

Прыбіраць бульбу трэба ў сухую пагоду з тэй прычыны, што мокрая бульба пры захаваньні на зіму больш псуецца. Калі бульба прыбіраецца ў мокрую пагоду, то яе трэба прасушыць, для чаго яна астаўляецца на некалькі дзён у невялікіх кучах, прыкрытая бацьвіньнем, або саломай.

Лепшую вытворчасьць і чыстату выбаркі даюць бульбакапацельныя машыны, якія ў недалёкім часе заменяць ручную выбарку поўнасьцю. Трэба сачыць за тым, каб на полі не заставалася бацьвіньне. Зьнішчаць бацьвіньне трэба затым, каб зьнішчыць усю заразу ад хвароб, якія маюцца на бульбе і праз бульбоўнік заражаюць глебу, калі бацьвіньне вельмі пашкоджана хваробамі, то яго ня раяць класьці і ў гной, таму, што хваробы, якія знаходзяцца на бацьвіньні, захоўваюць жыцьцё і ў гнаі.

### Захаваньне бульбы на зіму

Перш за ўсё трэба сачыць, каб бульба ня прымерзла ў полі ў час прыборкі. Калі бульбу прыхваціць марозам у час прыборкі, дык яе лепш усяго збыць на крухмальны ці браварны завод для перапрацоўкі і не пакідаць на зіму, бо прымерзлая бульба, ня гледзячы ні на якія ўмовы, згніе. Захоўваць бульбу трэба сухую, пры гэтым трэба зрабіць адборку гнілых клубняў, папсаваных мэханічна і ачысьціць ад зямлі.

Захоўваць бульбу трэба пры тэмпэратуры ня ніжэй 2° і ня вышэй 6°. Калі тэмпэратура будзе вышэй 6°, то бульба пачне прарастаць і гніць. Бульба захоўваецца ў скляпох, ямах і буртох. Найбольш пашыраным і танным спосабам захаваньня бульбы гэта капцы.

Закладка капцоў робіцца такім чынам: выбіраецца пляцоўка, абароненая ад паўночных вятроў, па магчымасьці на высокім месцы, каб не магла падыйсьці вада. На гэтым месцы адзначаецца аснова будучага капца канцамі з поўначы на поўдзень, абмяраецца шырыня яго, каля 2 мэтраў — даўжыня па мэры патрэбы — прыблізна на 200—250 цэнтнэраў бульбы. Некаторыя робяць яшчэ выемку каля 15—20 *см.* Па дну намечанага аснаваньня капца кладзецца зьбітая з трох, або чатырох дошчак труба, у якой пракручваюцца дзіркі, каб магло свабодна праходзіць паветра. На гэтую ляжачую трубу ставяцца такія-ж стаячыя трубы адлегласьцю 6 мэтраў адна ад другой, вышынёю каля 2-2½ мэтраў. Пасьля гэтага насыпаецца бульба ня больш як 1-1¼ мэтр. Улажыўшы роўна бульбу закрываюць яе саломаю, лепш азімаю, таўшчынёю ня менш як поўмэтра з тым разьлікам, каб сьціснутая салома была таўшчынёю каля 15—20 *см.* і асыпаюць тонкім слоем зямлі. Самы грэбень пакідаюць не закрытым зямлёю аж да самай зімы, каб была добрая вэнтыляцыя. Зямлю для засыпкі бяруць тут-жа побач, на 1 мэтр адступіўшы ад канца. Пры наступленьні зімы зямлі дабаўляецца да 50 *см* таўшчыні. Канцы труб таксама затыкаюць саломаю.

У зімовы час трэба сачыць за тэмпэратурай, якую можна мерыць звычайным тэрмомэтрам, апусьціўшы яго ў трубу хвілін на 15—20. Вясною, калі канчаюцца маразы, трэба самы грэбень капца аслабаніць ад зямлі.

Калі бульба захоўваецца ў спэцыяльных скляпох, дык апошнія трэба летам добра прасушваць. Усе драўляныя часткі бяліць расчынаю вапны, якой бярэцца 1—1,5 кілёгр. на 12 літраў вады. Пажадана да раствору дабаўляць меднага купаросу з разьліку 130 г на 12 літраў вады. Акрамя гэтага ўвесь склеп трэба акурыць серкай з разьліку 10—20 г на 1 куб. мэтр памяшканьня. Серку трэба мяшаць з вуглем, бо яна адна кепска гарыць і поўнасьцю не згарае.

## Скарыстаньне бацьвіньня на корм

Рацыянальным вядзеньнем культуры бульбы можна лічыць такую пастаноўку справы, калі будуць скарыстаны ўсе як падземныя, так і надземныя часткі расьліны. Да гэтага часу ў нас скарыстоўваліся толькі клубні, усё-ж бацьвіньне альбо пакідалася на полі, альбо палілася і толькі нязначная частка скарыстоўвалася на падсьцілку і то перад хлявамі ў нізкіх мясцох, у той час, як з бацьвіньня бульбы можна зрабіць вельмі каштоўны корм у выглядзе сіласа. Калі мы прымем вагу сьцябла аднаго куста за 400 гр. і лік кустоў на *га* ў 26000 пры адлегласьці 62×62 *см*), дык будзем мець 400×26000=10400 кілёгр., або каля 10 кубамэтраў сіласу (1 кубамэтр сіласа важыць ад 800 да 1000 клгр.), якая колькасьць адпазядае пракорму двух кароў на зімовы час (на 1 карову трэба каля 5 кубамэтраў) пры дабаўленьні саломістых і канцэнтраваных кармоў.

Пры выкананьні плянавых заданьняў па сіласаваньню, некаторая частка кіраўнікоў саўгасаў і калгасаў адмаўляюцца тым, што няма чаго сіласаваць, няма зялёнае масы. Калі-ж правільна скарыстаць бульбоўнік, то можна ўпэўнена сказаць, што яны могуць перавыканаць заданьні на многа процантаў. Тут толькі правільна выбраць тэрмін скашваньня бацьвіньня, бо раньні скос, адмоўна адбіваецца на ўраджаі бульбы.



Бацьвіньне трэба касіць перад уборкай, калі яно яшчэ зялёнае і не пабіта хваробамі.

Д. Мурашка-Усхончык.

# САЖА НА САРТОВЫХ ЗАСЕВАХ АЎСА БССР у 1930 г.

Адначасова з правядзеньнем мерапрыемстваў па барацьбе з сажаю збожжавых культур, бязумоўна, неабходна так ці інакш падлічваць і эфэктыўнасьць гэтых мерапрыемстваў, а таксама выяўляць і найбольш заражоныя раёны для далейшай барацьбы. З гэтай мэтай падаюцца далей некаторыя матар'ялы аб пашкоджаньні сажаю сартавых засеваў аўса БССР у 1930 г.

Для характарыстыкі пашкоджанасьці засеваў аўса 1930 г. ўзяты матар'ялы з актаў палявой апрабацыі кантрольна-насенных станцый. Выкарыстаньні давалі багаты матар'ял. У сярэднім на раён прыпадала каля 10 і больш буйных гаспадарак (калгасаў або саўгасаў). Падрабязная характарыстыка матар'ялу паказваецца ў табліцы:

| Назва кантр.-насен. станцыі | Лік гасп., дзе была апраб. | Лік скарыст. акт. | Тое-ж у % | Тып гаспадарак: Калгас | Саўгас | Пасёлкі, вёскі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Віцебская . . . . . | 356 | 271 | 76,12 | 271 | — | — |
| Горацкая . . . . . | 351 | 293 | 83,93 | 272 | 21 | — |
| Менская . . . . . | 257 | 205 | 79,77 | 124 | 78 | 3 |
| Гомельская . . . . | 309 | 256 | 82,83 | 230 | 3 | 23 |
| Усяго . . | 1273 | 1025 | 80,52 | 897 | 102 | 26 |

Процант пашкоджаньня засеваў аўса, як для раёну, так і для станцыі вылічваўся па ліку гаспадарак. Розьніца яго ад проц. па зьнішчанай сажаю плошчы нязначная, асабліва для раёну дзейнасьці кантрольна-насенных станцый.

Сярэдні процант пашкоджанасьці сажаю сартавых засеваў аўса ў 1930 годзе паказан у табліцы:

| Раён дзейнасьці кантр.-насен. станцыі | Лік раёнаў | Лік гасп. або плантацый | Плошча *га* | Сярэдні % пашкодж. сажаю | Хістаньні % сажы |
|---|---|---|---|---|---|
| Віцебская . . . . . | 18 | 271 | 9304,5 | 2,36 | 0,2—65,0 |
| Горацкая . . . . . | 24 | 293 | 7746,58 | 5,38 | 0.1—71,0 |
| Менская . . . . . | 24 | 205 | 8093,67 | 3,47 | 0,25—40,0 |
| Гомельская . . . . | 21 | 256 | 8190,2 | 4,18 | 0.2—50,0 |
| Па БССР . . | 87 | 1025 | 3333,95 | 3,85 | 0,1—71,0 |

Вялікае заражэньне сажаю маюць сартавыя засевы аўса па Горацкай кантрольна-насеннай станцыі (5,38 проц.) На Аршаншчыну найбольшая заражонасьць аўса прыпадала і ў 1929 годзе (10,55 проц.). Далей у 1930 г. па заражонасьці ідзе раён дзейнасьці Гомельскай станцыі (4,18 проц.).

Тут цікава адзначыць, што некаторыя высока-заражоныя раёны ў 1929 г. заха-

валі такую-ж заражонасьць і ў 1930 г., частка раёну зьнізіла проц. сажы (Багушэўскі, Гомельскі). Акрамя таго, некаторыя раёны даюць высокі проц. сажы ў 1930 г. першы раз, што паказвае на занос туды заразы сажы з прывозным насеньнем.

Прыклады падаюцца ў табліцы:

| Назва раёну | 1929 г. Лік гасп. | 1929 г. % сажы | 1930 г. Лік гасп. | 1930 г. % сажы |
|---|---|---|---|---|
| **А. Пашкоджаныя сажаю ў 1929 і 30 г.** | | | | |
| Расьнянскі . . . | 2 | 15,41 | 5 | 24,4 |
| Мсьціслаўскі . . | 5 | 12,8 | 3 | 7,0 |
| Талачынскі . . . | 9 | 8.67 | 25 | 5,78 |
| Буда-Кашалеўскі . | 15 | 6.77 | 15 | 8,98 |
| Веткаўскі . . . | 11 | 6.74 | 13 | 9,73 |

Б. Пашкоджаныя ў 1930 г.

| Назва раёну | Лік гасп. | % сажы |
|---|---|---|
| Чарэйскі . . . . . | 7 | 10,49 |
| Жлобінскі . . . . | 15 | 7,38 |
| Сьвіслацкі . . . . | 7 | 6,34 |
| Краснапольскі . . . | 4 | 9,75 |
| Крычаўскі . . . . | 15 | 8,23 |
| Чаўскі . . . . . | 10 | 8,37 |
| Купалаўскі . . . . | 13 | 6,82 |

Для аднэй і тэй-жа гаспадаркі проц. сажы для 29 і 30 г. застаўся толькі ў лічаных выпадках (гл. апошнюю табліцу).

Гэтыя прыклады паказваюць або на адсутнасьць тут барацьбы з сажаю, або толькі на частковае пратручваньне насеньня, што таксама не ліквідуе сажу ў гаспадарцы. Зьяўленьне-ж прыметнага проц. сажы ў новых раёнах (1930 г.) паказвае на занясеньне туды заразы з насеньнем, якое к таму-ж было высеяна без пратручваньня. Так, напрыклад, некаторыя калгасы Жлобінскага раёну не пасьпелі пратруціць атрыманае сартовае насеньне і засевы іх аказаліся заражанымі сажаю на 9—10 проц. У тых-жа выпадках, дзе ўжывалася пратручваньне насеньня аўса растворам фармаліны, націраецца зьніжэньне пашкоджаньня сажаю да 1 проц. Ілюструем гэта прыкладам па раёну дзейнасьці Менскай кантрольна-насеннай станцыі:

| Якое ўжывалася насеньне | Лік гаспадарак | Плошча *га* | Сярэдні % сажы |
|---|---|---|---|
| Непратручанае . . | 123 | 4073,19 | 4,57 |
| Пратручанае . . | 83 | 4020,48 | 1,84 |

Такім чынам, пратручваньне зьнізіла пашкоджаньне аўса сажаю на 2,73 проц. Такое зьніжэньне проц. сажы ёсьць адначасова і падвышэньне ўраджаю. Але тут трэба яшчэ заўважыць, што пратручвалася, зразумела, больш заражонае насеньне, якое без пратручваньня дало-б большы проц. сажы, чым непратручанае ў даным прыкладзе. Больш шырокае пратручваньне насеньня аўса ў 1930 г., бязумоўна, аказала свой уплыў і на зьніжэньне агульнага проценту пашкоджаньня аўса сажаю ў параўнаньні з 1929 г.: 1929 г.—6,92 проц., 1930 г.—3,85 проц.

Для 1930 г. некалькі зьніжаецца проц. пашкоджаньня сажаю і для найбольш заражоных плянтацый: у 1929 г. 60 гаспадарак — 1289,08 *га*, сярэдні проц. пашкоджанасьці—1729, а ў 1930 годзе—74 гаспадаркі—274,43 *га*, сярэдні процант пашкоджанасьці 15,49.

Гэтыя высока-заражоныя плянтацыі напэўна былі засеяны непратручаным насеньнем, бо, як бачым, па матар'ялах Менскай К.-Н. Станцыі ў 1930 г. пратручваньнем было ахоплена каля 60 проц. насеньня сартавога аўса. Характарызуючы сарты аўса адносна пашкоджаньня сажаю, можна сказаць, што больш заражоным зьяўляецца Залаты дождж і Пабеда.

У заключэньне неабходна паказаць на той урон па ўраджаю сартавога аўса, які выклікала пашкоджаньне яго сажаю.

| Даныя К.-Н. станцый | Лік раёнаў | Лік гасп. | Абсьл. плошч. *га* | Урон ад сажы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Па плошч. у %% | Па плошч. у *га* | Зерня у цнт. |
| Віцебская | 18 | 271 | 9304,5 | 2,22 | 206.68 | 2066,8 |
| Горацкая | 24 | 293 | 7746,58 | 4,99 | 387.31 | 3873,1 |
| Менская | 24 | 205 | 8093,67 | 3,91 | 316,54 | 3165,4 |
| Гомельская | 21 | 256 | 8190,2 | 4,13 | 338,74 | 3387,4 |
| | 87 | 1025 | 33334,95 | — | 1249,27 | 12492,7 |

Па проценту пашкоджаньня кожнай плянтацыі вылічваўся ўрон на плошчы і далей пералічваўся на ўраджай зерня ў цнт. Сярэдні ўраджай прыняты ў 10 цнт. з *га*.

| Назва гаспадаркі | Раён | Сорт | 1929 г. | 1930 г. |
|---|---|---|---|---|
| Колгас „Свабода" | Коханаўскі | Зал. дождж | 12% | 16,0% |
| „ „Новы Шлях" | Талачынскі | „ „ | 23,25 | 14.0 |
| „ „Расьсвет" | Дрыбінскі | Пабеда | 30.0 | 12,0 |
| „ „Пабеда" | Буд. Кашал. | „ | 17,0 | 11.5 |
| Саўгас „Астрагляды" | Брагінск. | Зал. дождж | 22,0 | 50.0 |

Такім чынам культура аўса нясе прыметны ўрон ураджаю ад пашкоджаньня сажаю, чаму мерапрыемствы па барацьбе з ёю павінны заслугоўваць агульнай увагі. Наша савецкая ўлада ставіць задачай у бліжэйшыя 1—2 гады зьліквідаваць сажу ў гаспадарках сацыялістычнага сэктару. Гэта заданьне павінна быць выканана.

Аб барацьбе з сажаю ў другі раз.

Зон. Станцыя Аховы Расьлін БССР.

С. Тупяневіч

**Падрыхтоўку да вясеньняй кампаніі ўжо цяпер трэба зьвязаць з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі.**

**Молатаў**

# Больш корму прадукцыйнай жывёле

## Правільнае скарыстаньне саломы— захоўвае корм у гаспадарцы

Сена, салома яравая і азімая зьяўляюцца ў нас асноўнымі кармамі ў гаспадарцы.

Між тым, салома звычайна няправільна і неэканомна скарыстоўваецца. Яна задаецца жывёле ў непадрыхтаваным, цэльным выглядзе. Цэльная салома мала пажыўна, і скаціна траціць шмат сілы на яе разжоўваньне. Частка саломы раскідваецца пры гэтым пад ногі жывёлы, асабліва калі ня маецца кармушак.

Пагэтаму трэба салому папярэдня падрыхтаваць. Тады яна больш правільна скарыстаецца і зробіцца больш пажыўнай і смачнай.

*Найбольш простая падрыхтоўка — гэта здрабленьне саломы ў сечку.* Сечка павінна быць не занадта дробнай, бо ў такім выпадку, яна можа выклікаць у коняй колікі, а ў кароў і авечак—спыненьне жвачкі. Даўжыня сечкі для буйнай рагатай жывёлы павінна быць 3-4 сантымэтры, для коняй і авечак—2 сантымэтры. Такая сечка паядаецца жывёлай бяз страт, бо не раскідваецца ёю пад ногі і не патрабуе ад яе значнай затраты сіл пры разжоўваньні.

Сечку лепш зьмешваць з высеўкамі, мукой, з зернем, або караньплодамі,



Мал. 1.



Мал. 2.

бульбай. Без дадаткаў другіх кармоў *сечку трэба змачваць гарачай вадой, альбо давесьці яе да саманаграваньня шляхам бушаваньня, або запарваць яе.*

Саманаграваньне сечкі ўтвараецца так. Сечку паліваюць вадой і дадаюць крышку мукі. Усё гэта грунтоўна перамешваецца, укладаецца ў скрыню, або ў цэмантаваную яму, а зьверху накідваецца цяжар. Салома пачынае бушаваць, цяплыня падвышаецца, праз тры дні корм гатоў. Салома пры гэтым разьмякчаецца, робіцца прыемнай на смак, і скаціна яе ахвотна паядае.

У гаспадарцы неабходна мець 4 такіх скрыні. Тады можна штодзенна скармліваць па аднэй скрыні, ізноў засыпаць яе сечкай, якая пасьпявае толькі праз 3 дні.

Калі ўжываюць цэмантаваную яму, дзеляць яе крыж на крыж дошкамі на 4 роўных часткі — накрываюць кожнае аддзяленьне моцнай покрыўкай (гл. мал. 1) У першы дзень напаўняюць адно аддзя-

леньне, на другі дзень—другое, на трэці дзень—трэцяе, на чацьверты дзень, напоўніўшы чацьвертае аддзяленьне, выймаюць гатовую ўжо сечку з першага аддзяленьня.

Там, дзе ёсьць магчымасьць, можна *салому запарваць такім спосабам*: У печ умазваецца звычайны кацёл, які напаўняецца вадой (гл. мал. 2). Над катлом устанаўляецца кадушка з дзюравым дном. Кадушка набіваецца сечкай, шчыльна зачыняецца і спушчаецца ўніз да катла, у якім кіпіць вада. З катла пара праходзіць праз дзюравае дно і прамачвае ўсю сечку. Затым, праз 40—50 хвілін, кадушка зьнімаецца з катла, корму даюць астыць, пасьля чаго яго можна задаваць скаціне.

Пры запарваньні салома робіцца больш мяккай і набывае прыемны пах. Нават папсаваная салома, якая пакрыта плесьняй альбо іржой, робіцца добраякаснай для спажываньня.

Апроч папярэдняй падрыхтоўкі корму ў гаспадарцы трэба абавязкова ўстанавіць перад кожнай каровай хоць-бы самую *простую кармушку*, бо, як кажуць: „Кармушка—воз сена беражэ“.

Неабходна таксама захоўваць салому, ужываючы замест яе *ў падсьцілку торф, або кастрыцу, яловыя лапкі, апілкі, мох, лісьце*.

Такім чынам—падрыхтоўка саломы на сечку, яе заварваньне, саманаграваньне, запарваньне, устаноўка кармушак і замена саломы ў падсьцілцы—вось спосабы найбольш поўнага спажываньня і захаваньня корму ў гаспадарцы. На гэта нашы калектыўныя гаспадаркі павінны зьвярнуць вялікую ўвагу.

**Б. Каплан.**

# ЛЕПШЫ КОРМ ДЛЯ ЖЫВЁЛЫ

Спэцыялізацыя буйнай сацыялістычнай гаспадаркі і пераважна жывёлагадоўчы напрамак яе ў БССР, з усёй рашучасьцю вымагаюць неадкладнага вырашэньня кармовага пытаньня, асабліва ў галіне забясьпечаньня жывёлы харчамі, багатымі бялковай матэрыяй.

У гэтых адносінах адно з відных месц павінна быць адведзена пялюшцы і віцы як яравой, так і азімай, што яскрава відаць з прыведзенай табліцы:

| Назва прадуктаў | Знаходзіцца ў %% | | |
|---|---|---|---|
| | Бялка | Жыру | Вугляводу |
| Віка | 27,5 | 2,3 | 47,2 |
| Гарох | 23,2 | 1,9 | 58,3 |
| Мяса | 20,9 | 5,4 | 0,5 |
| Хлеб жытні | 8,1 | 1,2 | 45,7 |
| Бульба | 2,1 | 0,2 | 21,7 |

Пашырэньне пялюшкі і вікі сумесна з пашырэньнем бульбы, дасьць магчымасьць значна і хутка падняць прадукцыйнасьць паляводзтва як у адносінах бялкоў, так і вугляводаў. Гэта тлумачыцца таму, што адзінка плошчы пад бульбай дае ў тры разы больш харчовай матэрыі, чым такая-ж адзінка плошчы пад жытам у пераводзе на сухую матэрыю; збор бялка з адзінкі плошчы пад пялюшкай альбо вікай у два разы больш, чым з такой-жа плошчы, занятай жытам. Ураджай жыта таксама павялічваецца на 20—30 проц., калі папярэднікамі яму былі бабовыя культуры. Азоцістага ўгнаеньня пры пасеве на насеньне пялюшка і віка не патрабуюць і наадварот, самі яны абагачаюць глебу азотам, якога застаецца толькі ў пажніўных астатках каля 50 кілёграмаў на *га*, што па азоту раўнацэнна 100 цэнтнэрам гною альбо 3 цэнтн. чылійскай салетры.

Пялюшка зьяўляецца вельмі невымагальнай культурай і ўдаецца добра на ўсякіх глебах, нават на пяску, ад чаго пялюшку часта называюць пясчаным гарохам. Лепшымі глебамі пад пялюшку зьяўляюцца супесі і лёгкія суглінкі, багатыя вапнай, і дрэннымі зьяўляюцца сырыя глебы з блізкім к паверхні ўзроўнем грунтовых вод. Пры культуры на

насеньне лепшым месцам у севазвароце будзе пасьля прапашных альбо азімых, на другі, або трэці год пасьля гною. Пры культуры на зялёны корм або сена і сілас-пялюшка сеецца ў папаравым полі па сьвежым гнойным угнаеньні, што значна павялічвае ўкос, які ў залеж асьці ад сорту пялюшкі дасягае да 79,5 цэнтнэраў сухой масы з *га*.

Мінэральныя ўгнаеньні неабходны пры культуры на насеньне, асабліва фосфарна-кіслыя ўгнаеньні, якія, галоўным чынам, павялічваюць ураджай зерня і скарачаюць вэгетацыйны пэрыяд. Фасфарытная мука ўносіцца з восені ў колькасьці ад 5-7 цэнтн. З больш дарагіх фасфарытных угнаеньняў супэрфосфат лепш уносіць вясной перад пасевам у разьмеры 2,5—3, 5 цэнтн. на *га* ў залежнасьці ад урадлівасьці глебы. Калійных угнаеньняў уносіцца ад 1,6—2 цэнтн. у залежнасьці ад колькасьці калія ў дадзенай солі. У якасьці калійнага ўгнаеньня можа быць выкарыстаны звычайны попел у разьмеры ад 10—15 цэнтн. на *га*.

Апрацоўка глебы нескладаная: патрабуецца глыбокая ўзворка з восені і раньняе вясеньняе баранаваньне і калі глебы цяжкія, прыпадзістыя, або паросшыя сьмяцьцёвымі расьлінамі, патрэбна вясеньняе няглыбокае ўзорваньне. Пры культуры на насеньне патрабуецца вельмі раньні высеў. У зьвязку з нястойкасьцю сьцябла супроць паляганьня—пялюшка высяваецца ў выглядзе мешанкі з аўсом, конскім бобам, ячменем і інш. Такія мешанкі каштоўны ня толькі таму, што захоўваюць гарох ад загніваньня пры паляганьні, але і таму, што значна павялічваюць ураджаі, пры чым павышэньне часта дасягае да 50—80 проц. у параўнаньні з чыстымі пасевамі і зразумела, што пры мешанках глушацца сьмяцьцёвыя расьліны, лепш выкарыстоўваецца глеба, сьвятло і інш.

Пасеў насеньня робяць на глыбіну 4-5 *см*. Догляд за насеньнем зводзіцца к зьнішчэньню коркі, якая ўтвараецца на зьвязных глебах пасьля вялікіх дажджоў, з мэтай аблягчэньня зьяўленьню ўсходаў.

Уборка вытвараецца пры пасьпяваньні ніжніх бобікаў. Сушыць лепш на козлах альбо вешалах. Прычым неабходна адзначыць, што пялюшка траціць усходжасьць пры складаньні яе вільготнай у скірды. Пагэтаму яе проста з поля малоцяць і пры вільготнасьці насеньня да 18 пр. прапускаюць праз зернясушылку, а пры адсутнасьці апошняй, насеньне раскладаецца пластом у 3-5 *см* у зачыненым і добра праветрываемым памяшканьні. Першапачатковая ачыстка насеньня робіцца на звычайнай веялцы, а для аддзяленьня прымешак і бітых зернят прапускаюць праз „зьмейку“, пасьля якой прапускаюць яшчэ праз „сартыроўку па весу“. Такім чынам, для насеньня выбіраецца самае цяжкае зерня, а рэшта ідзе на корм.

Сортаспрабаваньнем пялюшкі да гэтага часу ў БССР не займаліся і таму раёнаваньне гатункаў пялюшкі не ўстаноўлена.

Віка яравая мала вымагальная да глебы, як і пялюшка і, за выключэньнем лёгкіх пясчаных глеб, яна ўдаецца ўсюды, нават і на кіслых тарфяных глебах Наогул-жа агратэхніка яравой вікі мала чым адрозьніваецца ад пялюшкі. Абедзьве гэтыя культуры высяваюцца як на насеньне ў мэтах атрыманьня канцэнтраванага бялковага корму, так і на зялёны корм.

Найбольш ураджайнымі сартамі яравой вікі зьяўляюцца наступныя: „Высокалітоўская“, „Курская“, „Шэрая буйнанасенная віка“ і інш.

Пад назвай азімай вікі разумеецца махнатая віка, якую іначай часта называюць пясчанай або чорнай вікай. Галоўнай задачай культуры азімай вік зьяўляецца атрыманьне зялёнага корму ў веснавы пэрыяд, калі ніякія іншыя культуры яшчэ ня могуць разьвіцца і даць значна зялёнай масы.

К глебе азімая віка мала вымагальная і добра ўдаецца нават на сыпкіх пяскох, не пераносіць толькі цяжкіх сырых глеб. Марозы да 25° пераносяцца ёю добра, частая пагібель азімай вікі выклікаецца галоўным чынам вымачкамі. У севазвароце яна зьмяшчаецца ў тым-жа кліну, дзе і жыта азімае і ў першай палове

чэрвеня і к канцу мая дае добрую зялёную масу для харчаваньня жывёлы.

Таксама добрым месцам для азімай вікі зьяўляецца пасеў яе ў папары. На Менскай расьлінаводнай станцыі на супяшчаных глебах пры гэтым атрымана 52 цэнтнэры сухой масы віка-жытняй мешанкі. Пасьля прыборкі вікі быў пасеян лубін, які даў зялёную масу ў 450 цэнтн. Па лубіну было пасеяна жыта. Такім чынам у працягу аднаго году было зьнята два ўраджаі і пасеян трэці, чым дасягнута максымальнае выкарыстоўваньне плошчы.

Недахоп кармоў зімою, прымушае касіць азімую віку як толькі яна крыху падымаецца. Таму пры такой раньняй касьбе трэба касіць на 4-5 *см* ад паверхні зямлі. Тады віка добра адрастае і дае другі ўкос. Пры культуры на насеньне паджынаюць віку ў той час, калі ніжнія бобікі падсохнуць, звычайна верхнія кісьці ў гэты час яшчэ ў кветках, але на гэта ня трэба зварачваць увагі, бо ніжнія бабы зьяўляюцца больш каштоўнымі і пры перадзержцы вікі яны могуць асыпацца.

**Жванскі.**

# АБ СІЛАСАВАНЬНІ ЖЫТНЯЙ САЛОМЫ

У бягучым годзе пытаньне аб забясьпечаньні буйнае жывёлы грубымі кармамі як ніколі стаіць досыць сур'ёзна. Пагэтаму эканомія і ашчаднасьць выдатkаваньня маючыхся грубых кармоў і мабілізацыя дадатковых кармовых сродкаў у час стойлавага ўтрыманьня жывёлы павінна адыграць галоўную ролю ў справе вырашэньня кармовага пытаньня ва ўмовах буйных жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасаў.

Неабходна застанавіцца на адным спосабе скарыстаньня ў якасьці корму азімай саломы (жытняй і пшанічнай), сіласаваньні яе, што значна павялічвае кармавую і страўную якасьць саломы пры невялікіх затратах дадатковых кармоў. Гэта набывае яшчэ большае значэньне з гаспадарчага боку таму, што гэта сіласаваньне магчыма праводзіць 3-4 разы ў год, нават і зімою, што дае магчымасьць максымальнага скарыстаньня сіласаўстановак.

Сіласаваньне азімай саломы для корму праводзілася ўпяршыню, а таксама і праверана, належным чынам, Зоотэхнічнай станцыяй Кубанскага с.-г. інстытуту ўвосень 1929 году і вясною 1930 г.

У асноўным сіласаваньне азімай саломы з тэхнічнага боку зводзіцца к наступнаму: сухая, непадгніўшая салома зрэзваецца ў сечку даўжынёю $2^{1}/_{2}$ см., пасьля сечка змачваецца вадой да 65—70 проц. вільготнасьці і потым шчыльна перамешваецца з $1^{1}/_{2}$—2 проц. высевак, пажадана пшанічных (на кожныя 26 цэнтнэраў сечкі трэба даць 18—32 клгр. высевак альбо на 100 пудоў сечкі—$1^{1}/_{2}$-2 пуд. высевак) і закладваецца ў сіласную ўстаноўку—вежу або траншэю, абавязкова з непрамёрзлымі сьценкамі—роўнымі пластамі ў 0,5 мэтр. таўшчынёю і пасьля паліваецца кіслым малаком у колькасьці 1—$1^{1}/_{2}$ проц. ад сіласуемай сечкі, альбо 12—18 літраў кіслага малака, якое трэба разбавіць напалову вадою на кожную 1 тону і пасьля яго закладаемая на сілас маса шчыльна ўтрамбоўваецца.

Зачыняецца сілас таксама як і пры сіласаваньні зялёных і сакавітых кармоў: з максымальнай шчыльнасьцю і цяжаром зьверху.

Праз 3 месяцы сілас павінен быць гатоў для ўжываньня; па сваёй спажыўнасьці ён мала чым адрозьніваецца ад добрага сіласа з зялёных расьлін і, нават, гэты сілас з саломенай сечкі вельмі ахвотна паядаўся жывёлай у ліпені месяцы пры аднасачовым утрыманьні на добрым пасьбішчы (вопыты Кубарскай зоотэхнічнай станцыі).

Страўная каштоўнасьць засіласаванай такім чынам саломы павялічваецца амаль у 2,5 разы.

Пры параўнаньні спажыўнасьці грубых

кармоў з азімай саломай, узятай з гэтага сіласа, магчыма бачыць наступнае:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Крухмальны эквів. | засілас. | азімай саломы | 27,1 |
| „ | „ | несіл. азім. саломы | 10,9 |
| „ | „ | аўсянай саломы . . | 17,0 |
| „ | „ | ячменнай „ . . | 19,0 |
| „ | „ | сена луг. добрага . | 28,7 |
| „ | „ | „ „ сярэдняга . | 13,7 |
| „ | „ | „ „ кепскага . | 18,9 |
| „ | „ | мякіны аўсянай . . | 28,6 |
| „ | „ | „ ячменцай . | 2 ,0 |

З гэтай табліцы відаць што спажыўнасьць азімай саломы пры засіласаваньні яе значна перавышае спажыўнасьць лугавога сена сярэдняй якасьці.

Кармавая каштоўнасьць сіласа з азімай саломы яскрава вызначаецца з наступных лічбаў:

Сілас жытняй саломы прыгатаваны па спосабу Кубанскай Зоотэхнічнай станцыі

| | | | |
|---|---|---|---|
| мае . . . . . . . . . . . . | 13,0 | крух. | эквів. |
| сілас з кукуруз. сьцяблоў сьпел. | 6,75 | „ | „ |
| „ „ кукуруз. зялёнай . . . | 8.60 | „ | „ |
| „ „ бураковага бацьвіньня . | 7,90 | „ | „ |
| „ „ травы сарнякоў . . . | 7,90 | „ | „ |

На першы погляд паўстае пытаньне: можа, у прыведзеным вышэй вопыце, на павялічэньне спажыўнасьці сіласа з саломы маюць уплыў высеўкі і кіслае малако, унесеныя ў паказанай колькасьці ў сілас? Але-ж пры больш падрабязных падліках відаць, што спажыўнасьць гэтых кармоў у суадносіне з спажыўнасьцю ўсёй масы сіласуемай саломы мае вельмі нязначны процант, роўны 0,58 проц. альбо 58 клгр. крухмальных эквівалентаў на 10 тон сіласу, тады, як уся колькасьць спажыўных матэрый у гэтай масе сіласаванай саломы будзе роўна 2.710 клгр. крухмальных эквівалентаў супроць 1090 клгр. крухм. экв., чаму роўна спажыўнасьць 10 тон звычайнай несіласаванай саломы.

Зьвяртаючы ўвагу гаспадарчых устаноў, саўгасаў, калгасаў і дасьледчых станцый на гэты спосаб мабілізацыі кармавых рэсурсаў для прадукцыйнай жывёлы, трэба адзначыць, што гэта сур'ёзная справа, аднак, патрабуе яшчэ прапрацоўкі ва ўмовах БССР шляхам пастаноўкі адпаведных досьледаў з мэтаю дасканалага вывучэньня пытаньняў наступнага зьместу:

1) вывучыць тып сіласаўстаноўкі, магчымай для выкарыстоўваньня ў працягу ўсяго году, асабліва ўзімку;

2) вывучыць тэрмін высьпяваньня сіласу з азімай саломы, прыгатаванага па вышэйпаказанаму спосабу;

3) устанавіць колькасьць унасімых для закваскі сіласуемай саломы кармоў: кіслага малака і высевак;

4) вывучыць магчымую замену закваскі кіслага малака на „чыстыя культуры“;

5) правесьці параўнаньне ўплыву сіласу з азімай саломы з сіласамі іншых культур на прадукцыйнасьць малочных кароў пры яго страўліваньні і вывучыць нормы дачы;

6) правесьці вывучэньне сабекаштоўнасьці 1 адзінкі гэтага сіласу і адшукаць магчымыя спосабы яго найбольшага ўдзешаўленьня.

Аграном зоотэхнік Ноздрын.

**„Пленум ЦК абавязвае ўсе раённыя арганізацыі зьвярнуць асаблівую увагу на грунтоўнае паляпшэньне і пашырэньне існуючай кармавой базы... Адначасова больш поўна выкарыстаць унутраныя—гаспадарчыя рэсурсы арганізацыі кармоў“.**

**(З пастановы пленуму ЦК КП(б)Б)**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ДА ЎСІХ РАЙКАЛГАССАЮЗАЎ І ПРАЎЛЕНЬНЯЎ КАЛГАСАЎ

Краязнаўства зьўяляецца аднэй з форм актыўнага ўдзелу працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве сваёй краіны, праз усебаковае вывучэньне прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў свайго раёну, разьвіцьця прамысловасьці, сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, арганізацыі вытворчасьці ў сацыялістычным сэктары народнай гаспадаркі і сацыялістычнай культуры для практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Краязнаўчая праца ў мінулым не садзейнічала сацыялістычнаму будаўніцтву; яна мела варожы для пралетарыяту і шкодны дла сацыялістычнага будаўніцтва характар і зьўлялася пляцдармам контр-рэволюцыйнай дзейнасьці беларускіх нацыянал-дэмакратаў. У краязнаўчую працу зусім ня ўцягваліся рабочыя, калгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы.

У мэтах карэннай перабудовы краязнаўчае працы і накіраваньня яе на шлях сапраўднай дапамогі партыі і рабочае клясе ў сацыялістычным будаўніцтве, неабходна шырока папулярызаваць сярод рабочых, калгасьнікаў, саўгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, камсамольцаў і наогул працоўнай моладзі задачы савецкага краязнаўства, уцягнуць у краязнаўчую працу шырокія працоўныя масы і зрабіць яе сапраўднай формай актыўнага ўдзелу працоўных у будаўніцтве сацыялізму.

Практычнымі задачамі краязнаўчае працы ў галіне сельскае гаспадаркі для ўсіх краязнаўчых арганізацый на цяперашнім этапе сацыялістычнага будаўніцтва павінны зьяўляцца: дасьледваньне вытворчых сіл і экономікі свайго раёну, вывучэньне разьвіцьця прамысловасьці і сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, калгасаў і саўгасаў, вывучэньне арганізацыі працы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, як сацыялістычных мэтадаў працы, рацыяналізацыі вытворчасьці і вынаходз-тва, вывучэньне клясавай барацьбы і сацыялістычнага наступленьня на кулацтва, вывучэньне быту калгасьнікаў і саўгасьнікаў, ажыцьцяўленьня задач культурнай рэвалюцыі і г. д. Уся праца краязнаўчых арганізацый павінна садзейнічаць разгортваньню суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

Надаючы вялікае значэньне масавай краязнаўчай працы ў вывучэньні прыродных сіл краіны, прамысловасьці і сацыялістычнай сельскай гаспадаркі ў мэтах актыўнай дапамогі сацыялістычнаму будаўніцву, прапанаваць усім райкалгассаюзам і праўленьням калгасаў аказаць усямерную дапамогу раённым краязнаўчым таварыствам, шырока папулярызаваць задачы і значэньне краязнаўчае працы і разгарнуць сетку краязнаўчых гурткоў у калгасах, уцягнуўшы ў краязнаўчую працу актыў калгасьнікаў, ударнікаў, вынаходцаў, селькораў. У дасьледчай працы краязнаўчых гурткоў у калгасах скарыстаць вынікі працы вытворчых нарад, брыгад вынаходніцтва і рацыяналізацыі, вучот адміністрацыі— эфэктыўнасьці працы ўдарных брыгад і г. д.

Бліжэйшымі задачамі ў працы краязнаўчых гуткоў у калгасах павінны быць: усебаковае вывучэньне і монографічнае апісаньне свайго колгасу, вывучэньні паасобных галін гаспадаркі, арганізацыі працы, разьмеркаваньне прыбыткаў у арганізацыя вытворчых музэяў, якія павінны папулярызаваць дасягненьні ў разьвіцьці сацыялістычнае сельскае гаспадаркі і агітаваць бядняцка-серадняцкія масы за калектывізацыю ўсіх аднаасобных гаспадарак.

Старшыня Праўленьня Белкалгассаюзу *С. Міцькоў*

Старшыня Цэнтральнага Бюро Краязнаўства *В. Серафімаў*

# Палажэньне аб вытворчых нарадах у калгасах

Задача разьвіцьця калектывізацыі, узмацненьня існуючых калгасаў і найбольшага ўздыму прадукцыйнасьці працы патрабуюць шырокага разгортваньня самадзейнасьці і самакрытыкі мас калгасьнікаў, разьвіцьця іх вытворчай ініцыятывы.

Асноўнай формай уцягненьня шырокіх мас членаў калгасаў да актыўнага ўдзелу ў разьвіцьці і ўзмацненьні калектыўнай гаспадаркі зьяўляюцца **вытворчыя нарады**. —

## I. Задачы вытворчых нарад

Галоўнейшымі задачамі вытворчых нарад зьяўляецца ўсямернае палепшаньне калектыўнай гаспадаркі, падвышэньня прадукцыйнасьці працы, павялічэньне таварнасьці гаспадаркі, барацьба за цьвёрдую працдысцыпліну, прапрацоўка вытворчых і рабочых плянаў і нагляданьне за своечасовым іх выкананьнем. Уцягненьне ў калгас новых членаў з ваколічных батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас насельніцтва. У асобных галінах гаспадаркі работа вытворчых нарад павінна праходзіць прыкладна па наступных пытаньнях:

### 1. У галіне паляводзтва

а) Своечасовая падрыхтоўка і выкананьне галоўных с.-г. работ, як-та: падрыхтоўка глебы, складаньне насенных фондаў, ачыстка і пратручваньне насеньня, рамонт і папаўненьне с.-г. інвэнтару і транспартных сродкаў. Падрыхтоўка рабочай жывёлы, трактараў, арганізацыя і падрыхтоўка рабочай сілы, правядзеньне веснавой і асеньняй сяўбы, арганізацыя догляду за расьлінамі (палiўка і інш.). Уборка і апрацоўка ўраджаю: а) выкананьне хлебазагатовак, апрацоўка і рэалізацыя прадукцыі спэцыяльных і тэхнічных культур;

б) Тэрмін і якасьць выкананьня рабочых плянаў;

в) Пашырэньне плошчы пасеву і разьвіцьця коранеклубняплодаў і тэхнічных культур;

г) Увядзеньне палепшанага севазвароту, гатунковых і радковых пасеваў, ужываньне лепшых спосабаў апрацоўкі і падрыхтоўкі глебы;

д) Падрыхтоўка гумнаў, сьвірнаў і інш.

### 2. У галіне садоўніцтва і гародніцтва

а) Закладка новых садоў і падсадка існуючых;

б) Пашырэньне плошчы пад гароднімі культурамі;

в) Увядзеньне парніковых культур;

г) Арганізацыя догляду за садам і гародам і барацьба са шкоднікамі (абрэзка, пабелка і апырскваньне дрэў, прарэджваньне і абсыпка гародніны і інш.)

### 3. У галіне жывёлагадоўлі

а) Колькаснае павялічэньне статку абагуленай жывёлы, арганізацыя малочнай гаспадаркі, прамысловых сьвінарнікаў і птушнікаў, своечасовае ўкамплектаваньне іх жывёлай і птушкай. Палепшаньне якасьці прадукцыйнай жывёлы і птушкі, арганізацыя злучных пунктаў, набыцьцё палепшанай і заваджкой жывёлы;

б) Палепшаньне ўмоў утрыманьня прадукцыйнай жывёлы, уцяпленьне і асьвятленьне абор і інш.;

в) Арганізацыя правільнага харчаваньня жывёлы па нормах, апрацоўка корму для харчаваньня жывёлы.

г) Павялічэньне плошчы пад кармовымі культурамі, палепшаньне сенажацяй, сіласаваньне кармоў;

д) Гадоўля маладняку прадукцыйнай жывёлы.

### 4. У галіне будаўніцтва

а) Прапрацоўка будаўнічых праэктаў і капітарысаў;

б) Выбар месца пабудовы;

в) Своечасовая загатоўка будаўнічых матар'ялаў і своечасовае скончэньне будаўніцтва. Адшуканьне і максымальнае выкарыстаньне мясцовых будаўнічых матар'ялаў. Эканомнае выдаткаваньне матар'ялаў і сродкаў.

### 5. У галіне арганізацыі працы

а) Прапрацоўка і ўвядзеньне норм выпрацоўкі;

б) Пытаньні аплаты працы, увядзеньне зьдзельшчыны;

в) Прапрацоўка балянсу рабочай і цягавай сілы;

г) Разьмеркаваньне работ паміж калгасьнікамі, давядзеньне прыпадаючай колькасьці працадзён да кожнага калгасьніка;

д) Арганізацыя рабочых брыгад;

е) Поўны і своечасовы выхад калгасьнікаў на работу;

ж) Правільнае наладжваньне падліку працы членаў, увядзеньне падліку працы ў працадзінках;

з) Пытаньні поўнага выкарыстаньня лішкаў рабочай і цягавай сілы. Арганізацыя адходніцтва. Прапрацоўка дагавароў калгасаў з гаспадарчымі арганізацыямі на выкарыстаньне лішкаў рабочай і цягавай сілы. Арганізацыя саматужных промыслаў;

і) Прэміраваньне за лепшую работу і вышэйшую прадукцыйнасьць працы;

к) Устанаўленьне парадку і мер пакараньня за парушэньне дысцыпліны і дрэнную работу;

л) Пытаньні разьмеркаваньня прыбытку і ўраджаю паміж калгасьнікамі.

Асноўным шляхам выкананьня задач, пастаўленых перад вытворчымі нарадамі, зьяўляецца шырокае ўцягненьне ў работу нарад масы калгасьнікаў, выхаваньне з іх моцнага актыву барацьбітоў за пасьпяховае разьвіцьцё калгасу, за перамаганьне сустракаючыхся на шляху разьвіцьця калгаснага будаўніцтва цяжкасьцяй.

Для ажыцьцяўленьня ўсіх пералічаных мерапрыемстваў неабходна найбольшае разьвіцьцё сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Для гэтай мэты вытворчыя нарады арганізуюць ударныя брыгады, уцягваюць у іх усіх членаў калгасу (асабліва жанчын), правяраюць і абмяркоўваюць вынікі работы ўдарнікаў,

накіроўваюць усю ўвагу ўдарнікаў і ўсіх членаў калгасу на палепшаньне якасьці работы, на выкананьне і перавыкананьне вытворчых і рабочых плянаў.

Побач з гэтым вытворчыя нарады арганізуюць сацспаборніцтва з суседнімі калгасамі, саўгасамі і прам. прадпрыемствамі, а таксама паміж брыгадамі і групамі ўнутры калгасу. Распрацоўваюць дагаворы па сацспаборніцтву і сурова сочаць за іх выкананьнем.

## II. Парадак арганізацыі вытворчых нарад

Вытворчыя нарады арганізуюцца як агульна-калгасныя, так і па галінах гаспадаркі і брыгадах. Агульна-калгасныя вытворчыя нарады складаюцца: з загадчыкаў галінамі гаспадаркі як членаў праўленьня, так і тэхнічных спэцыялістаў калгасу, членаў рэўкамісіі, брыгадзіраў і актыву калгасьнікаў. Нарады па галінах гаспадаркі: з загадчыкаў адпаведнай галіны, спэцыялістаў, брыгадзіраў і калгаснага актыву. У парадку добраахвотнасьці на вытворчых нарадах удзельнічаюць усе жадаючыя калгасьнікі, а ў выпадку патрэбы прыцягваюцца на вытворчыя нарады і суседнія аднаасобнікі.

Увага. Пры разьбіўцы гаспадаркі калгасу на асобныя вытворчыя вучасткі (эканоміі), вытворчыя нарады могуць арганізоўвацца і па вучастках, па тыпу галінных ці брыгадных, залежна ад памеру вытворчага вучастку.

## III. Тэрмін склікаНьня вытворчых нарад

Вытворчыя нарады, як правіла, павінны працаваць рэгулярна, зьбіраючыся ў цьвёрда вызначаныя тэрміны. Прычым агульна-калгасныя вытворчыя нарады павінны склікацца ня менш аднаго разу ў месяц, па галінах гаспадаркі ня менш 2-х разоў у месяц і брыгадныя—у залежнасьці ад патрэбы. У паасобных выпадках, калі трэба вырашыць тэрмінова тое ці іншае пытаньне, агульна-калгасныя вытворчыя нарады таксама могуць быць скліканы ў любы дзень.

## IV. Выкананьне рашэньняў вытворчых нарад

Вытворчыя нарады зьяўляюцца дапаможным органам у вытворчай рабоце праўленьня калгасу. Вытворчая нарада ёсьць арганізацыя дарадчая, а таму рашэньні праводзяцца праз дапаведныя кіруючыя органы калгасу, а менавіта:

а) Прапановы агульна-калгасных і галінных вытворчых нарад разглядаюцца праўленьнем калгасу і праводзяцца ў жыцьцё па яго паказаньні;

б) Рашэньні брыгадных вытворчых нарад зацьвярджаюцца загадчыкамі адпаведных галін, а асобныя складаныя пытаньні могуць пераносіцца і на разгляд праўленьня калгасу.

Праўленьне калгасу і загадчыкі галінамі абавязаны разгледзіць рашэньні вытворчых нарад не пазьней 3-х дзён, а ў асобных тэрміновых выпадках на працягу сутак. Зацьверджаныя праўленьнем ці загадчыкамі галін рашэньні вытворчых нарад павінны тэрмінова праводзіцца ў жыцьцё з адпаведным падлікам іх выкананьня.

## V. Кіраўніцтва работай вытворчых нарад

Брыгадныя вытворчыя нарады склікаюцца брыгадзірамі, а вытворчыя нарады па галінах—загадчыкамі гэтых галін.

Агульна-калгасныя нарады склікаюцца старшынёй праўленьня калгасу або яго намесьнікам. Кантроль за выкананьнем рашэньняў вытворчых нарад ускладаецца на рэўкамісію калгасу, а падрыхтоўка матар'ялаў да нарад ускладаецца на праўленьне калгасу, загадчыкаў галін і брыгадзіраў. У калгасах, маючых больш 200 членаў, на агульна-калгаснай вытворчай нарадзе абіраецца вытворчая камісія, якой даручаецца кіраўніцтва вытворчымі нарадамі, падрыхтоўка матар'ялаў для разгляду на вытворчых нарадах і кантроль за выкананьнем іх зацьверджаных рашэньняў. Старшынёй вытворчай камісіі зьяўляецца член праўленьня калгасу.

## VI. Меры да палепшаньня работы

Для прэміраваньня брыгад асобных калгасьнікаў і спэцыялістаў, згодна статуту калгасу, вызначаецца спэцыяльны прэміяльны фонд. За кошт гэтага фонду ўтвараецца прэміраваньне асоб, якія паказалі высокую прадукцыйнасьць і добрую якасьць работы.

Праўленьне калгасу, заг. галінамі і вытворчымі вучасткамі павінны аказваць усямернае садзейнічаньне членам калгасу і агратэхнічнаму пэрсаналу ў ажыцьцяўленьні іх каштоўных прапаноў.

Калгасцэнтр БССР.

Рэдкалегія: Бондар, Паніматка, Сямашка, Аўчыньнікаў, Самусевіч.

# РОБІМ НАПАМІНАК

# ЧАКАЕМ АДКАЗУ

Яшчэ ў жніўні 1930 года (гл. № 9 „Шляхі калектывізацыі“) праўленьне і актыў Чырвонаармейскай камуны імя N-й стр. дывізіі (Ветрынскі раён) выклікалі на сацспаборніцтва па распаўсюджаньні часопісу „Шляхі калектывізацыі“ — камуны „Чырвоная Зорка“ (Экімань) і БВА і ўсе калгасы Ветрынскага раёну, у першую чаргу калгас імя тав. Мялешка (Бабынічы).

Чырвонаармейская камуна ўзяла на сябе абавязак да студзеня 1931 году дабіцца выпіскі часопісу кожнай сям‘ёй камуны. Гэты абавязак хоць з спазьненьнем, але камуна пасьпяхова выконвае; пастаўленая камунай задача ў хуткім часе будзе ажыцьцёўлена.

**Нам зусім невядома, што робіцца па распаўсюджаньні часопісу „Шляхі калектывізацыі“ калгасамі Ветрынскага раёну, у першую чаргу калгасам імя т. Мялешка і камунамі „Чырвоная зорка“ і БВА, якія чырвонаармейская камуна выклікала на сацспаборніцтва.**

**Рэдакцыя часопісу „Шляхі калектывізацыі“ чакае адказу ад гэтых калектыўных гаспадарак.**

***Рэдакцыя часопісу.***

ЦАНА 15 кап.



Друкарня імя Сталіна Заказ № 147. 5.000 экз. Галоўлітбел № 127.